Мікола Чарняўскі

# НАВЕЧНА З СОНЦАМ

*ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ПАЭМЫ*

МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1986

Героі гэтых твораў нявыдуманыя. Іх подзвігі — таксама.

Міхась Усоскі жыў у Новым Сяле, што на Барысаўшчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны ён змагаўся ў партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі», якою камандаваў Герой Савецкага Саюза П. Р. Лапацін. Вясною 1943 года Міхась загінуў у няроўным баі з ворагам. Было яму тады толькі шаснаццаць гадоў.

Шаснаццаць гадоў пражыў на свеце жлобінскі падпольшчык і партызан Антон Губараў. Адважны юнак мужна загінуў, але жыццё яго працягваецца: яго імем названа вуліца ў родным горадзе, яго імя прысвоена многім піянерскім атрадам, яго імя ўвекавечана ў назве карабля. Па бяскрайніх марскіх прасторах ходзіць сухагруз, таксама названы імем яшчэ аднаго юнага беларускага героя — піянера Марата Казлова, які жыў, змагаўся і загінуў на Магілёўшчыне.

Яго імя носіць піянерская дружына сярэдняй школы № 1 г. Быхава, многія піянерскія атрады. Яны горача любілі Радзіму, сонца над роднай зямлёю. І калі настаў грозны час выпрабаванняў, мужна аддалі за яе свабоду і шчасце сваё жыццё. Іх гераічная смерць стала крокам у бессмяротнасць. Яны назаўсёды засталіся з намі, з сонцам.

Аўтар

# НАВЕЧНА
# З СОНЦАМ

БАЯМІ ЮНАЦТВА ГРЫМЕЛА,
МОЙ ГОЛАС НАД СВЕТАМ ЗВІНЕЎ:
«ВЫДАЙЦЕ ЗБРОЮ СМЕЛЫМ,
І САМАМУ ПЕРШАМУ — МНЕ!»
*Міхаіл СВЯТЛОЎ*

# ВЯРТАННЕ Ў ВЯСНУ МАЛЕНСТВА

«Невысокі ростам быў мой сынок, але такі шыракаплечы, спрытны, прыгожы... Вельмі любіў спорт, і ўсе яго сябры заўсёды за ім — і ў футбол, і ў лапту, і ў гарадкі...»

*З успамінаў маці Арыны Харытонаўны*

«...Антон хацеў стаць вайскоўцам — танкістам. Захапляўся кнігамі і фільмамі пра герояў грамадзянскай вайны — Чапаева, Фрунзе, Катоўскага. Самай любімай была ў яго песня пра трох танкістаў, трох вясёлых сяброў, ён часта яе напяваў, калі думаў, што яго ніхто не чуе...»

*З успамінаў сястры Ганны Цімафееўны*

Гляджу на здымак пацямнелы,
Чытаю: «Юны патрыёт...»
Пагляд вачэй —
Адкрыты, смелы,
Бы крылы птушкі —
Броў узлёт.

Здзіўленне ў позірку застыла,
Здзіўленне родным харaством —
Бярозкай радаснай за тынам,
У небе
Першым жаўруком...

Гляджу на гэты фотаздымак,
Чытаю: «Губараў Антон».
А прада мной,
А прад вачыма —
Не строгі,
Трошкі іншы ён.

Ці ж будзеш строгі ў чатырнаццаць,
Калі ў вачах
Вясна плыве,
Калі спяваць,
Калі смяяцца

Гукае сонца ў сіняве?

Ён быў усё ж
Вясёлым, шумным —
Скакалі чорцікі ўваччу.
І я у позірку задумным
Знайсці гарэзінкі хачу.

Сярод сяброў —
Не аднаго,
Здаецца, бачу я
Яго.
Здаецца, ён бяжыць у змроку,
Сябрам гукнуўшы на ляту:
«Я ўсе паспеў зрабіць урокі,
Згуляем, хлопцы, у лапту?»

Нібыта бачу:
Летнім ранкам
Не спіць даўно,
Як і Дняпро:
На сонцы бліскае бляшанка,
На траўцы —
Плотак серабро...

Гляджу на гэты фотаздымак —
Ён у агні ўцалеў для нас,
А прад вачмі
У чорным дыме —
Той грозны год,
Той горкі час.

## «ЖЫВІ, ЗМАГАЙСЯ ЗА ДВАІХ...»

«Усё ў ім было крышачку занадта! Занадта непаседлівы і энергічны, занадта адчайны і дзёрзкі, занадта прынцыповы. Таму, напэўна, усім падабаўся: і нам, настаўнікам, і равеснікам. І ніхто не здзівіўся, калі ў першыя ж дні Вялікай Айчыннай вайны памчаўся Антон у ваенкамат: «Пашліце мяне на фронт!»

*З успамінаў настаўніцы В. С. Асмалоўскай*

«Атрымаўшы ў ваенкамаце адмову, Антон некалькі дзён працаваў разам з апалчэнцамі — дапамагаў эвакуіраваць абсталяванне прадпрыемстваў, капаў акопы. А потым пайшоў зноў у ваенкамат з заявай, што ён згубіў родных і цяпер зусім адзін у гэтым горадзе. І Антона залічылі выхаванцам 63-га стралковага корпуса 21-й ударнай арміі. Гэты корпус разам з байцамі знішчальнага батальёна і атрадамі народнага апалчэння стаў на абарону Жлобіна, калі фронт наблізіўся да Дняпра. Цэлы месяц трымалі абарону нашы войскі. Ды ўсё ж давялося адступіць за Дняпро...»

*З успамінаў баявых сяброў*

...На ўсход салдаты адыходзяць,
Гарачым пылам дзень прапах.
Па два,
Па тры
Байцы ва ўзводзе.
Застыла смага на губах.

І сонца быццам бы у гневе
На гэтых змораных байцоў,
Што разгуляцца далі ў небе
Чародам чорных «крыжакоў»,

Што вёсак, ніў, гаёў зялёных,
Якія лашчыла яно,
За дымнай чорнаю заслонай,
Як цёмнай ноччу,
Не відно...
Ідуць салдаты, адступаюць,
Чароды бежанцаў брыдуць.
Хто знае,
Што людзей чакае,
Куды дарогі прывядуць?
А побач выбухі калоцяць,
Зямлю становяць на дыбы.
...Другі заход сцярвятнік робіць,
Ляціць, зніжаецца, нібы

Ахвяр яшчэ сягоння мала...
Не схова
Рэдзенькі быльнёг —
І над дарогай пыльнай:
— Ма-а-ма! —
Павісла, быццам цяжкі стогн.
І, перарваны траскатнёю,
Суцэльным гулам, сумятнёй,
Згубіўся голас хвіляй тою,
Змяшаўся з плачам і крывёй.
...Прымоўклі, сціхлі ўжо гарматы
За пераправай,
За Дняпром.
Ці хутка вернуцца салдаты —
І ўдарыць гром,
Расплаты гром?
Прыўстаў Антон,
Зірнуў навокал:
«Як камандзіра ўратаваць?
Сваіх шукаць?
Яны — далёка.
Іх не гукнуць,
Іх не дагнаць...»
Антон ад крыўды ўсхліпнуў хрыпла
«Ці дацягну?
Ці памагу?..»
Зноў плашч-палатка як прыліпла,
Крывавы след на мурагу...
Укленчыў зноў над лейтэнантам,
А той прымоўк,
Нібыта спіць.
І толькі з губ засмяглых, сцятых
Злятае, нібы ў кані,—
«П-пі-іць...»
— Яшчэ хоць трошкі пацярпіце,
Да лесу блізенька зусім...
А сам слязу пілоткай выцер:
Наўрад ці хто паможа ім.
Яны ў кальцы,
У акружэнні,
Куды ні сунься —

Чужакі.
А сілы —
меней,
меней,
меней,
А кожны крок —
цяжкі,
цяжкі.
А лейтэнант расплюшчыў вочы,
І боль
І сум
Застылі ў іх.
— Усё, Антон, усё, мой хлопча,
Жыві, змагайся
За дваіх...
Ты чуеш, там...
Чужая мова...
І ўсё бліжэй,
Бліжэй яна...
Браток, Антоне,
Дай мне слова:
Як толькі скончыцца вайна,
Напішаш ліст,
Маім, дадому...
Ты ж знаеш, дзе сям'я жыве...—
І лейтэнант,
Бы ў цяжкай стоме,
Прыціх
На выбітай траве.
Ці ёсць давер
Слязам хлапечым?
Хацеў стрымаць іх,
Ды не змог:
Дрыжалі дробна
Рукі, плечы —
За кулямёт нібыта лёг!
Ды ўсё!
Няма ў Антона зброі —
Разбіла мінай кулямёт.
А камандзіру іх, герою,
Асколкам —

Грудзі навылёт!
І раптам —
Крокі за спіною,
І раптам вокліч:
— Кляйн зольдат?!
Гарачай руляю тупою
Упёрся ў плечы аўтамат.
«Няўжо прасіць ратунку слёзна?
Не, буду цвёрдым да канца!..»
— Шнель! —
Аўтаматчык гыркнуў злосна,
Перад сабой пагнаў хлапца.
...І вось Антон брыдзе гасцінцам,
Глытае пыл:
Палонны ён.
Куды вядуць яго
чужынцы?
На смерць
У логава сваё?
Ды шэпча штось
Сусед-вайсковец:
— Ты малады,
Не Эранен ты,
Будзь, хлопча мой,
напагатове,
Мы ўзнімем шум,
А ты — ў кусты!..

***

Хай кулі ціўкаюць навокал,
Зразаюць ельнік малады.
Ён ад няволі ўжо далёка,
Ды недалёка
Ад бяды.
Яна паўсюль,
У кожнай хаце,
На ўсіх дарогах і шляхах,
Дзе гінуць дзеці,
Гінуць маці,
Дзе дым і кроў,
Дзе плач і жах —

Паўсюль,
Дзе вораг ашалелы
Ступіў на мірны наш парог...
Сляза расінкаю зляцела
На верас выцвілы,
На мох.
«О лес!
Цяпер ты мне,
Як бацька,
Ты дапаможаш здзейсніць мне
Наказ байца,
Наказ салдацкі,
Як гэта робяць
На вайне...»

**«ЗМАГАЦЦА, ЗМАГАЦЦА, ЗМАГАЦЦА!»**

Што вернецца,
Ведаў і верыў —
Хіба застанецца забытым
Маленства шчаслівага берег
Са светлаю хваляй,
З блакітам?

З аерам зялёным
Над плёсам,
З дажджом серабрыстым,
З вясёлкай,
З туманам —
Дзядулем бялёсым —
На досвітку сонным,
На золку?..

«Дняпро мой, я зноўку з табою,
Даруй, што здарожыўся трошкі.
Ты чуўся мне ў грукаце бою —
Стагнаў ад нямецкай бамбёжкі.

Даруй:
Мы цябе не хацелі
На здзек пакідаць,

У прыгоне.
Ды як чужакі б ні люцелі,—
З тваіх берагоў іх прагонім!

Зірні, твае сінія хвалі
Жудою, крывёй набрыnялі...»
«Бо хвалі байцоў пахавалі,
Магілай салдацкаю сталі.

І крыўдна і горка, зазначу,—
Змуцілі варожыя танкі.
Не сонца над стромамі бачу —
У дыме, у хмарах
Світанкі...

Ды не, я не буду журыцца,
Слязою цячы, разлівацца.
Ты знай:
І вада загарыцца,
Каб полымем помсты заняцца!

Запомні:
Ніколі, ніколі
З Дняпра не натольвалі смагі
Ні прагных захопнікаў коні,
Ні воінства іх,
Ні біклагі!

У хвалі мае акуніся —
Адчуеш:
З табой я, з вясною.
Зірні, як пагодліва ўвысі
Заранка ўстае нада мною!..»

«Я ўсё, што пабачыў, запомню.
Не буду
Баяцца,
Вагацца.
Як быць, падкажы ўсё ж, Дняпро, мне?»
«Змагацца...
Змагацца...

Змагацца...»

«Ты ж бачыў, якая навала —
Да неба пажары дымяцца!..»
«Навала, якой не бывала б,—
Змагацца...
Змагацца...
Змагацца...»

«Да помсты я шлях адшукаю,
З сябрамі
Мне б толькі спаткацца...»
«Я веру ў цябе, я чакаю:
Змагацца...
Змагацца...
Змагацца!..»

...Ён плыў, разграбаючы хвалі,
Здаецца, і стома прапала.
А хвалі
Глыбока ўздыхалі,
Бы ў плынь іх
Трывога запала.
«Матуля, дзе ты, што з табою?
Ці выйдзеш сустрэць, ці спаткаеш?
Напэўна, у смутку, з журбою
Штоночы на ганку чакаеш?..

Я побач,
Я, родная, блізка.
Не думай,
Не плач,
Не журыся.
Вярнуўся твой сын,
Твой хлапчыска,
Вярнуўся байцом —
Ганарыся!..»

А зоркі дрыготка міргалі
Над ім,
Над Дняпром,

Па-над светам.
Знікалі,
Нібыта згаралі,—
Успыхвалі зырка ракеты.
Як скрушна,
Як зябка на золку
У жнівеньскім змроку дрымотным!
Як ціха ў рабочым пасёлку,

Як пуста
На беразе родным!..
Пастукаў —
Не спалі, пачулі!
З вачамі сустрэліся вочы:
— Матуля! Матуля! Матуля!
— Сыночак! Сыночак! Сыночак!
Вярнуўся, мой родненькі, выжыў!
Цяпер ты са мной,
Не з вайною.
...Вайна ж, выглядаючы хіжа,
Стаяла у іх — за спіною.

«У час акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі... у Жлобіне дзейнічалі падпольны райком КП(б)Б і падпольная камсамольская арганізацыя».

*Беларуская Савецкая Энцыклапедыя*

«У падпольную групу, якой кіраваў Міхаіл Іванавіч Елісееў, у асноўным уваходзілі вучні 20-й чыгуначнай школы, дзе ў свой час вучыўся Антон Губараў. Сярод іх былі Міхаіл Амбражэй, Клаўдзія Верамейчык, Яўген Гараўцоў, Фёдар Канстанцінавіч Елісееў і Фёдар Мікітавіч Елісееў, Іван Ісаенка, Яўген Асіпчук, Анатоль Валько, Іван Пякурын, Уладзімір Шырокі і інш. Праз сям'ю Губаравых партызаны атрада імя Жалязняка трымалі сувязь з падполлем...»

*З газетных звестак*

«Членам нашай групы Антон стаў у кастрычніку 1941 года. Як ён радаваўся, што нас многа!.. Самым

бясстрашным, самым адчайным у групе быў наш Антон...»

*З успамінаў былога кіраўніка падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы М. І. Елісеева*

**«ВЯЧОРКІ»**

Людзі хмурацца ў пасёлку,
Перашэпт ідзе глухі:
— Зноў наладзілі вячоркі
Нашы гора-жаніхі.
Хто бязмозгіх уратуе? —
З глузду з'ехалі зусім:
Кроў цячэ,
Фашыст лютуе,
Ім жа — гулі,
Скокі ім!
Ці ўзбрыло б
Такое ў галаў
Неўспадзеў і ў сне каму б? —
Як на здзек,
Ля роднай школы
Звіць гняздо,
Наладзіць «клуб»!..
...Заліваецца гармонік,
Пунсавее мех,
Як жар.
Быццам ён забыў сягоння:
На зямлі —
Вайна,
Пажар.
Бубен, гулкі, зухаваты,
І бразгоча,
І грыміць:
Хоча хлопцам і дзяўчатам,
Як двухрадка,
Дагадзіць!
І здаецца ўсім, нібы —
Ні бяды ў іх,
Ні журбы.
— А ў маёй Гарпіны —

Расток вераб'іны.
Захацеў пацалаваць —
Не знайшоў драбіны.
Эх-ох, эх-ох,
Не знайшоў драбіны...
Ды нібыта ўспомняць раптам
Ці спахопяцца,—
Тады
Зменяць свой настрой, характар —
Сум пакоціцца ў сады:
— Цячэ ручаіна —
Чыстая слязіна.
Чаго плачаш маці?
«Няма доўга сына...»
— А дзе ж твой сыночак —
Ясны прамянёчак?
«Ліхачка забрала —
На вайне сыночак...»
Эй, хто ўраз настрой сурочыў?
Хіба ж будзеш сумны тут? —
Вартавы ад школы збочыў,
Не хавае ўхмылкі:
— Гут!
Дзе ж Антон —
Хлапчак вясёлы?
Можа, дома?
Не, наўрад!
Ён цікуе,
Ён ля школы:
Там ёсць склад —
Са зброяй склад!
Покуль гэта вечарынка,
Бубна гром,
Двухрадкі звон,
Прыме «дар» —
Патронаў скрынку —
Склад яго —
Патайны схрон.
Папаўняецца ён хутка.
Ці ж не дзіва,
Ці ж не цуд:

Кулямёт ручны,
Спраўнюткі,
Быў у немцаў,
Зараз — тут!
...Лье святло газоўка скупа,
Як туман,
Цыгарак дым.
Толькі што за хлопцы з «клуба»
За Антонам —
Па адным?
Ні вачэй, ні губ вясёлых:
Міг,
Ён кожны мускул сцяў —
Твой уздых,
Твой крок,
Твой шолах,
Можа, чуе
Побач вораг,
Чуе вуліца наўсцяж?..
...Заліваецца двухрадка,
Бубен б'е двухрадцы ў лад...
Раптам шэпт:
— Усё ў парадку.
Ціха ў школе...
Дрэмле склад...
Злосна хмурацца ў пасёлку,
Перашэпт ідзе глухі:
— Зноў наладзілі вячоркі
Нашы гора-жаніхі...
Толькі знаў Антон з сябрамі,
І райком падпольны знаў:
Хто,
Навошта
Вечарамі
Танцы ў «клубе» пачынаў.
Толькі сведкай
Месяц, зоркі,
Толькі сведкаю атрад,
Чым канчаліся «вячоркі» —
Стаў пусцець
Нямецкі склад...

## «А МЫ ТЫМ ЧАСАМ —
## У ЗАСАДЗЕ!..»

Няўседна стала акупантам:
То тут, то там —
Засада,
Бой...
Прапаў спакой у каменданта.
Адкуль жа будзе ён, спакой?
Лістоўкі ходзяць —
Поўны горад.
А хто ў дэпо
Пажар зрабіў?
А хто зрабіў налёт заўчора —
Аўтакалону разграміў?
Не спіць чужак.
Ён злы і хмуры —
Няма надзей на цішыню:
Хто да самой камендатуры
Дабраўся ўжо —
Паднёс агню?
І што ні дзень,—
Чакай напасці.
Хто гаспадар?
З хвілін якіх?
На след падпольшчыкаў напасці б!
А хто яны?
А колькі іх?
Не ведаў кат:
Штодзень, шторання
Ідзе ў дэпо зусім хлапчук.
Не спаў хлапец —
Быў на заданні,
Ды скачуць чорцікі ўваччу!
І як Антону не ўсміхацца,
І як не радавацца,
Бо
Далі фашыстам прачуханца,
Яшчэ адзін далі ім
Бой!

Чужых машын дымяцца шыны
На радасць родным бальшакам.
Не быць рабамі
На чужыне
Дзяўчатам нашым, юнакам.
Не прычакаў іх эшалон,
А з ім —
Нямеччына, палон...
Хто ж першым быў,
І тут не здрадзіў
Парыву, клятве —
Першым быць?!
«А мы тым часам — у засадзе!..»
Хто часта любіць гаварыць?
Хто быў ён,
Мсціўца, храбры малец,
Смяльчак,
Няўседа,
Рызыкант?
Сябры з падполля гэта знялі,
Не ведаў толькі —
Камендант.
Не чуў,
Як весела, з прыжмурам,
Антон смяяўся ад душы:
Сам падпаліў камендатуру
І сам жа кінуўся тушыць...
— Фашысты носяцца, ды ўвішна,
І я, калі між іх «шчырэў»,
У мітусні,
Бы ненаўмысна,
Нямчыну дошкаю загрэў!
Спярша няўцям было прыблудзе,
Узвыў, як воўчая гайня,
Пасля схапіў,
Трасе за грудзі,
Бы ў ліхаманцы:
— Кляйн швіння!
Смяецца сын,
А маці горна,
Трывогі смутак засціць зрок.

— Я знаю, сын, ты непакорны,
Ды беражыся, мой сынок...

## НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

Дзянёк міне,
За ім яшчэ дзянёк —
І жаўрука пачуецца званок.
Пад радасны шпачыны перасвіст
Пацягнецца да сонца
Першы ліст.
І над Дняпром, бы ў маі,
Грымне гром —
У глыбіні
Прачнецца крыгалом.
Пачнецца крыгаход,
І ў час такі
Хто адвядзе,
Адцягне ад ракі?
З усіх двароў
Малеча-дзетвара
У гэты час
Віруе ля Дняпра.
І, як на здзіў,
Занятак ёсць усім:
Той чоўнік прыцягнуў,
Вяслуе ў ім,
А той на крыгу,
Быццам на плыток,
Ускочыў...
Не вясло ў руках —
Шасток.
Плыве смяльчак,
Галёкае між крыг.
Не бачыць маці —
Пацішэў бы ўміг!
Яшчэ адзін
Гарэза-«мараход»
Пусціў на хвалі ночвы —
«Параход».
На ім, відаць,

За «юнгу» кот.
Яму
На борце неспакойна
Аднаму.
Ён сцяўся ўвесь,
Гарыць, блукае зірк:
Куды раптоўна
Родны бераг знік?
Віруе плынь,
Плюскоча,
Б'ецца ў борт.
У ночвах,
Быццам на арэлях,
Кот.
Але сядзіць:
Няма куды ўцякаць,
Да калыханкі
Трэба прывыкаць...
Імчацца крыгі —
Коўзкіх не суняць!
Наскокваючы,
Крышацца,
Звіняць:
А па-над імі,
Над разбуджанай быстрой
Не льдзінак пырскі —
Дыяментаў рой!
...Любіў глядзець на крыгаход Антон.
Ды гэта ўсё —
Як успамін,
Як сон,
Маленства незваротная пара:
Спавіты дротам
Берагі Дняпра.
Дзе звонкі смех,
Вясёлая гульня?..
Забрала радасць
Чужакоў гайня...
...Глядзіць Антон у цёмнае акно:
Ці не відно каго?
Ці не чутно?

Ці прыйдзе госць —
З атрада сувязны?
З чым завітае сёння госць лясны?
Не спіць ніхто:
Ні маці, ні сястра —
Вось-вось у шыбіну
Пастукаюць з двара!
І раптам — стук!
Не ўмоўны, не такі?!
Хто пад дзвярмі?
Свае ці чужакі?
А маці —
Гэта ёй не ўпершыню:
— Спакойна, дзеткі,
Зараз адчыню...
І ён ступіў, як прывід,
На парог —
Чужая форма
З галавы да ног.
Фуражку зняў, як дома,
З галавы:
— Вы не волнуйтэсь,
И не бойтэсь вы...
Я — словак...
Я пришол предупредить,
За вашим домом начали следить.
Вчэра, сказали мне, здесь кто-то был,
И не один, и поздно приходил.
Видали свет...
Видали свет в окне...
Проверить дом ваш приказали мне.
Я доложу, что вечер проводили тут...
И вы так говорите,
Если позовут...—
Госць словы ў памяці
Вышукваў, падбіраў,
Ён тайну гэтым людзям давяраў.
Свяцілася ў паглядзе дабрыня: —
Вы всё жэ бойтэсь,
Только не меня...
Когда приходят гости,

Прячьте свет.
У вас, наверное,
Плохой сосед...—
І ён два пальцы ўскінуў,
Казырнуў,
Ступіў у цемру —
Бы ў яе нырнуў...
Яны ж маўчалі —
Не да слоў было:
Пачутае,
Як гром той, прагуло!
Хоць сэрцам адчувалі
Кожны дзень
Чужое вока за сабой,
Гестапа цень,
Ды ўсё ж...
Ды ўсё ж...
Вядома ім цяпер:
Не дрэмле вораг —
Сочыць хіжы звер.
А раз цікуе —
Быць, відно, бядзе;
Не сёння — заўтра
Скочыць, нападзе!
А госць не выдумаў,
Ён праўду гаварыў:
Учора ў іх
Збіраліся сябры.
Збіраліся падпольшчыкі якраз.
А хто высочваў,
Хто не спаў у гэты час?
— Сваіх адразу ж папярэдзь, сынок.
Прыход славака —
Гэта ўжо «званок».
Яго не зразумець,
Яго не ўчуць —
Трывогі,
Небяспекі
Не мінуць!..
І сам пасцеражыся трошкі хоць:
Ты думаеш, не бачаць,

Хто ты ёсць?
Ты неўгамонны,
Смелы ты,
Але ж
Ты чуў, што пра цябе казаў Кулеш?
— Мне гэты «бобік» сто разоў казаў:
«Я на цябе вузельчык завязаў...»
Прыжджэ, што не вузельчык,
А пятлю
Завяжам здрайцу —
Ляжа у зямлю!
Не бойся, мама,
Я не падвяду:
На фрыцаўскі кручок —
Не пападу.
А возьмуць след —
Пайду ў атрад,
У лес.
Там зброі больш,
Там біць фашыстаў лепш!..
Не думаў ён:
Падзьме вятрыска рэзкі —
На след падполля
Вораг нападзе,
І красавік у лес
Не па пралескі —
Да партызан
Антона павядзе...

## ЭКЗАМЕН

«Антон адразу ж папрасіўся ў дыверсійную групу да Аляксандра Іванавіча Верамейчыка, які быў майстрам падрыўной справы і навучыў сваіх хлопцаў многім хітрасцям. То тут, то там закладваліся міны, узляталі ў паветра варожыя паязды, і не было ворагу на жлобінскай чыгунцы ніякага спакою. 13 эшалонаў знішчыла група Верамейчыка! Як заўсёды і ўсюды, самым храбрым быў наш Антон, лез у самае пекла, і спыніць яго было немагчыма».

*З успамінаў былога камісара партызанскай брыгады «Жалязняк» Г. В. Злынава*

Як злосна колецца дзядоўнік!
Ці доўга, сцяўшыся, чакаць?..
Ляжы, цярпі —
Не хоча поўня
За хмарку цёмную знікаць.
Дранцвеюць пальцы на прыкладзе:
Вайна —
Не ў хованкі гульня.
Мільгнуўшы знічкаю ў паглядзе,
Звініць начная цішыня.
А вартавыя побач ходзяць,
Хрумсціць пад ботамі жвірок.
Дзот
Вока чорнага не зводзіць,
Глядзіць сюды,
У гэты бок.
Ды ён не вернецца з задання,
Няўцешны,
З мінай за спіной.
Ён праляжаць гатоў да рання —
Ды здасць,
Ды здасць экзамен свой!
Балюча торкнуўся каменьчык
Яму ў далонь...
Зірнуў Антон:
Там, у кустах,
І Верамейчык
Не менш хвалюецца, чым ён.
Ці ўдасца сённяшняю ноччу
Яшчэ адзін цягнік спыніць?..
Далёка недзе
штось ляскоча,
Далёка недзе
штось грыміць...
Антон чакаў, чакаў з хвіліну.
А ў цемры ўскрыкнуў паравоз —
Вяртлявай яшчаркаю
з мінай

На насып жвірысты папоўз...
А грукат цяжкі ўсё бліжэе,
Чуваць, як рэйкі ўжо гудуць.
Хутчэй!
Над насыпам шарэе,
Назад абходчыкі ідуць.
І ён уніз клубком скаціўся,
Стаіўся ў рэдзенькіх кустах.
Змахнуўшы пот,
Папоўз паціху —
Ці быў ты сёння ў сэрцы, страх?
— Усё ў парадку?
Малайчына!..—
Шапнуў, бы змоўшчык, камандзір.—
Пяройдзем хуценька лагчыну,
Адтуль на выбух паглядзім.
...А эшалон з хвілінай кожнай
Агнямі ўсё ярчэй мігаў,
Ускрыкваў у цішы трывожна,
Нібы канец свой прадчуваў...

## ЗНОЎ СНІЎСЯ СОН...

Зноў сон прысніўся,
Сон суровы —
Бой за Дняпром,
Апошні бой.
Біў кулямёт,
Грымеў нервова —
Бярог набой апошні свой.
І міны звон не ўчуў спачатку —
Хто, як дажджом,
Сыпнуў пяском?..
А потым... потым плашч-палатку
Цягнуў Антон,
Цягнуў паўзком.
Паліла сонца.
Сінявою
Услед плыло —
Не запыніць!
І чуў ён побач,

За спіною,
Стогн лейтэнанта кволы:
«П-п-і-іць...»
Убачыў кроў,
Убачыў вочы —
І боль і сум застылі ў і х :
«Усё, Антон, усё, мой хлопча,
Жыві, змагайся за дваіх...»
...Антон прачнуўся — сонца промень,
Як зайчык,
Бегаў па сцяне.
Здалося —
Зноў у родным доме,
Не ў будане,
Не на вайне.
«А гэты сон, што зноў прабіўся,
Кальнуў у сэрца,
Бы асцё —
З чаго б ён?
Каб я не забыўся?
Хіба ж забудзеш
Гэта ўсё?..»
І раптам знік, прапаў праменьчык,
Нібы спалохаўся каго.
— Хутчэй збірайся!
Верамейчык
Чакае нас,—
Гукнуў Рыгор.
— Навошта сонейка спалохаў? —
Антон, бы ў злосці, буркатнуў,
А Карлаў, гмыкнуўшы, з парога
Прад ім люстэрачкам крутнуў.
— Дык гэта ты са мной дражнішся? —
Спытаў з усмешкай і ўздыхнуў.—
А мне зноў
бой пад Рудняй сніўся,
Па жыце ўзводнага цягнуў.
— Раз так, даруй,
Пра сон не ведаў,—
Сказаў, сумеўшыся, Рыгор
І з будана

За сябрам следам
Нырнуў у досвітак,
У бор...

**«Я ПАЙСЦІ ГАТОВЫ!..»**

— Здарова, хлопцы, прывітанне!
Сабраў я вас, каб запытаць:
Ёсць тол яшчэ ў нас, ёсць жаданне
«Канцэрт» на рэйках немцам даць?
«Канцэрты» ў нас праходзяць гулка —
Далёка рэха іх чутно.
Зноў, хлопцы, просіць нас чыгунка —
«Падштопаць» толам палатно.
Бо эшалоны касякамі
І ўдзень і ўноч
На фронт паўзуць.
Напэўна, ведаеце самі,
Куды грукочуць,
Што вязуць.
Маршрут адзін, калі прыкінуць,—
Баі пад Курскам і Арлом.
І тут бы ім
Агню падкінуць —
І быў бы гром,
І быў бы лом!
Патрэбна нам сказаць ім: «Годзе!»
І ключык гэтакі знайсці,
Каб міма нас
Цягнік ніводзін
Не змог туды, на фронт, прайсці! —
І камандзір застыў над картай,
Нібы сказаў падрыўнікам:
«Я жартаваў,
ды не да жартаў
На гэты раз
Ні мне, ні вам...»
— Як лепш дыверсію правесці?
Ёсць план,
І ў штабе згодны з ім:
Падкласці міны,

ўдар нанесці
Удзень,
І ў Жлобіне самім.
Патрэбна нам паспрабаваць
Ушчэнт «трохкутнік» зруйнаваць!
Удзень —
Лічы, няма аховы,
Удзень —
Для немца неўспадзеў.
Хто пойдзе?
— Я пайсці гатовы! —
Устаў Антон,
Нібы ўзляцеў.—
Я меншы ростам,
Менш заўважны:
Паставіць міну —
Раз міргнуць!..
— Ты ў нас, Антон, баец адважны,
Ды ўсё ж разважным,
Пільным будзь.
Быць смельчаком,
Быць храбрым можна,
І гэта гонар,
Не дакор,
Ды паўтараю:
Асцярожна!
І ты, Антон,
І ты, Рыгор!
Я ўсім, хто пойдзе,
Іх задачу
Як след
Яшчэ раз растлумачу...
...Далей, далей вядзе Антона
Сцяжынка ў росы, у смугу.
«Я ж буду дома, буду дома!
А ўбачыць маму ці змагу?..»

**ВЫБУХ**

Бы ў Дняпры,
На небе сінькі —

Ранак сонечны плыве.
А расінкі,
Як слязінкі,
Быццам знічкі,
На траве.
Разварушаны трыпутнік,
Як той лопух,
Шалясціць...
Там, наперадзе,—
«Трохкутнік»,
Рэек срэбра
Зіхаціць.
Падпаўзлі.
А сэрца б'ецца —
Як на стыках
Колаў стук.
«Перастань!» —
Антон злуецца.
А ў адказ:
Тах-тах,
Тук-тук!
Цішыня.
Не бачна варты.
«Што ж, мы ім наб'ём гузак...—
Спахапіўся: —
Прэч іх, жарты!
Дзе ўзрыўчатка?
Дзе рукзак?..»
— У цябе ўзрывальнік, Грыша?
Міну ставіць самы час...
— Паравоз!
З дэпо, глянь, выйшаў.
І сюды ідзе,
На нас!
«Раз адтуль — відаць, з рамонту? —
Апаліла думка ўміг.—
Павязе падмогу фронту,
Ратаваць памчыць сваіх...»
Рэйкі стомлена грукочуць,
Топка пырскае агнём...
— Не дадзім яму праскочыць?

— Не дадзім!
— Рванём?
— Рванём!
І Антон, схапіўшы міну,
Шусь са схованкі на пуць!..
Хіба ў гэтую хвіліну
Будзеш помніць:
«Пільным будзь...»!
Толькі б выканаць заданне,
Толькі б ворага спыніць!
...Зноў усплыў малюнак даўні:
Камузвода стогне: «П-п-і-іць...»
...Быццам цень у змроку ночы,
Твар матулін у акне.
І пяшчотнае: «Сыночак,
Гэта ты
Ці сніцца мне?..
Дзе ж ты быў?
Як, родны, выжыў?..»
«Біў няпрошаных гасцей!..»
...Ляскат колаў —
Бліжай, бліжай,
Сэрца стук —
Часцей, часцей...
«Ці паспею?..» —
Стала млосна,
Бы ў спіну цягнік дыхнуў.
Ён паспеў!..
Ды позна, позна:
Грымнуў выбух —
Выбух злосна
Ў прорву быццам бы спіхнуў!

* * *

Нібы свінцовыя, павекі,
А ў галаве і гул і боль.
Здаецца, ён ляжыць
на рэйках...
Тады адкуль жа —
Сцены, столь?..
І непрывычны нейкі гоман,

І штось крывёю пахне дол?..
Нібы ў цяжкой дрымотнай стоме,
Прыўстаў Антон,
Зірнуў наўкол.
— Я, шэф, казаў вам недарэмна,
Каб прывязлі сюды яго.
Я рускіх ведаю не дрэнна,
Яны жывучыя, ого!..
Антон на міг заплюшчыў вочы:
«Ці праўда ўсё?
Ці гэта ў сне?
Я ж у дэпо…
Што каты хочуць?..
Не здамся я,
Не здамся, не…»
— Дзе ваш атрад?
Дзе ваша база? —
Пытаў, схіліўшыся, жандар.
Антон маўчаў.
Замест адказу —
Крывёю плюнуў
Немцу ў твар!
І зноў, нібы працяў пякуча
Раптоўна выбух агнявы:
І зноў, нібы зваліўся з кручы,—
Стаптаны,
Збіты,
Ледзь жывы!
Калі ж да памяці вяртала
Вада халодная яго,
Адно, як токам, працінала:
«Ці не сказаў я ім чаго?..»
…Гляджу на здымак: вусны сцяты,
Бясстрашша свецiцца ўваччу:
«Я не скажу ні слова, каты!
Я ўсё сцярплю!
Я ўсё змаўчу!
Хоць я памерці рана змушан,
Хоць жыць зусім нядоўга мне,
А клятвы… клятвы не парушу,
Сваіх сяброў

Не выдам,
Не!..
Не страшна мне з жыццём разлука,
З матуляй,
З сонцам,
З сінявой...
«Три танкиста, три весёлых друга —
Экипаж... машины... боевой...»

## РАЗВІТАННЕ

Затуманіўся бераг дняпроўскі —
Калыханка яго,
Родны свет.
І бярозкі, як сёстры, бярозкі
Пазіралі пакутліва ўслед.
І зязюля нібыта забыла
Смерць і гора:
Яна, як заўжды,
Не змаўкаючы звонка дарыла,
Як надзею, як шчасце,—
Гады...
Бег прыцішыў Дняпро сінябровы,
Пасумнела зязюля ў ляску.
Нібы стужка зары вечаровай,
Заружовіўся след на пяску.
«Вось і ўсё...
Што прымоўкла, зязюля?
Смутак свой у лісці не хавай...
Можа, раптам пачуе матуля
Тваю песню?
Кувай жа,
Кувай!..»
Ён ляжаў, а над ім аблачынкі
Праплывалі, знікалі, бы ў ноч.
Як дажджынкі,
Ляцелі пясчынкі —
Дол чужынцы капалі наўзбоч.
І пачуўся раптоўна Антону
Родны голас,
Жаданы да скону:

«Я дзень твой апошні запомню,
Мне горка з табой расставацца...»
«Як быць, што прыдумаць, Дняпро, мне?»
«Змагацца...
Змагацца...
Змагацца...»
«Ты ж бачыш, капаюць магілу,
Знямог я, мне ўжо не падняцца...»
«Пакуль бачыш сонца, ёсць сілы —
Змагацца...
Змагацца...
Змагацца...»
«Не выдаў сяброў я, не здаўся,
Не думаў: жывому б застацца!..»
«Ты жыць між герояў застаўся,—
Змагацца...
Змагацца...
Змагацца!..»
Зноў чужынцы пайшлі на ўгаворы.
— Дзе атрад?
— Хто яшчэ быў з табою?
І Антон, як тады, як заўчора,
Плюнуў немцу ў вочы крывёй.
Зашапталі бярозкі з трывогай,
Што ні міг — яшчэ болей пакут:
Немцы ў гневе —
Жывога, жывога! —
Хлопца кінулі ў яму:
— Капут...
Чуў Дняпро, і бярозкі, і травы:
Жвір сыры варушыўся, хрыпеў.
Завіхаліся фрыцы рухава,
Каб засыпаць хутчэй
Гэты спеў:
«Три... танкиста...
три... весёлых... друга...
Экипаж... машины... боевой...»
Ён жывы быў,
Ён песняй змагаўся,
Песня гэтая —
Помстай была.

...Дзе праменьчык апошні схаваўся?
У вачах —
Ні нябёс,
Ні святла...

## НАВЕЧНА З СОНЦАМ

«Новаму судну Латвійскага параходства, пабудаванага па заказу Савецкага Саюза румынскімі карабеламі, прысвоена імя Антона ГУБАРАВА.
...Просім прыслаць матэрыялы пра вашага героя-земляка, яны будуць апублікаваны ў газеце «Латвійскі марак» пад рубрыкай «Імя на борце».

*З пісьма рэдактара газеты ў Жлобінскі ГК ЛКСМБ, кастрычнік 1974 года*

«Знаходзімся ў рэйсе ў Партугалію. 8 сакавіка — у дзень нараджэння Антона Губарава — на борце цеплахода адбыўся вечар памяці героя»

*З радыёграмы*

«...перайменаваць вуліцу 2-ю Мохавую ў вуліцу Антона Губарава — піянера-партызана, які загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны...»

*З рашэння Жлобінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных ад 13 сакавіка 1975 года*

...Гляджу на гэты фотаздымак —
Нібыта чую праз гады:
«Цябе, жыццё,
Цябе, Радзіма,
Любіў я сонечна заўжды.
Любіў спяваць —
Душа ўся насцеж!
Любіў смяяцца —
Дзень вітаць!
Я гэту радасць,
Гэта шчасце
Ці ж мог забыць,
На здзек аддаць?!»
...Гляджу на здымак —

Быццам бачу
Антона зблізку,
Не здаля:
Стаіць на палубе гарачай,
Стаіць пад мачтай карабля.
Плюскочуць хвалі за кармою,
Пад сонцам пыркі —
Бірузой.
Прастор туманіцца смугою,
Здзіўляе,
Радуе
Красой.
Ці думаў ён, ці сніў, ці марыў,
Хлапчук з дняпроўскіх берагоў,—
Пачуе шчырае: «Таварыш...»
На мове ўсіх мацерыкоў!
Лунае сцяг пад волкім ветрам,
Як хвалі,
Чуйны,
Трапяткі.
А ён, прыжмурыўшыся, светла
Глядзіць удалеч з-пад рукі.
Праз штормы,
Далі ў хмарах шэрых,
Праз дні
У сонечнай красе
Ён бачыць свой шчаслівы бераг,
Надзею ўсім
Здалёк нясе:
І там,
Дзе занялося ранне,
І там,
Дзе мгліцца змрок начэй,—
Святлей
Ад зорак нашых стане,
Ад сцяга,
Ад яго вачэй!

...Дзверы грукнулі гулка.
Праменьчык апошні
Затрымцеў, бы спалоханы,
Скокнуў — і знік...
Быццам з воза ў прыпар
На калючую пожню,
Паваліўся Марат,
Да падлогі прынік.
Здагадаўся:
Шапоча, казыча салома,
Нібы ў пуні прылёг
Ці ў стажку за сялом.
Як знаёма ўсё гэта
І як — незнаёма:
Патыхае салома
Крывёю і тхлом...
Цягне сырасцю,
Холадам цягне аднекуль.
А калюча, балюча,
Бо раны смыляць...
Быццам зрушыў гару,
Ён размружыў павекі —
Цені, цені,
Як каты у чорна-чырвоным,
Стаяць.
Варухнуліся раптам!
Бліжэй да Марата!
Першы цень хістануўся —
Занылa рука.
А другі падступае з ухмылкай
Вар'ята,
Сталь вачэй
Адбіваецца ў сталі клінка!
**Першы** (нахіліўшыся, зларадна шыпіць, як вужака):
— Што, хлуснёй і маўчаннем
Хацеў адкупіцца?
Можа, скажаш цяпер:
Хто паслаў?
Дзе атрад?
**Другі** (іранічна, са з'едліва-жудаснай ухмылкаю вар'ята):

— Ён жа смерці, відаць,
Не баіцца?
Ці не праўду кажу я,
Ма-а-р-ат?
**Першы** (падхоплівае, з нейкай затоенай радасцю):
— Бачыш, ведаем,
Хто ты,
Адкуль ты!
З чым у вёску ішоў уначы?
**Другі** (з вар'яцкай пагрозаю):
— Каб не знаць
Яшчэ горшай пакуты,
Прызнавайся хутчэй,
Не маўчы!
**Першы** (самазадаволена не хавае ўсмешкі, прыпальвае цыгарку):
— Пра сіроцтва
Нам казак не трэба.
Добра знаем,
Які ты «жабрак».
Хочаш есці, Марат?
Хочаш хлеба?
Будзе ўсё...
Прызнавайся, дзівак...
Другі (як і першы, схіляецца над ім):
— Ты маўчыш?
Пагрозліва ловіць клінком цесака сонечныя промні, іх блікі трапятліва мільгаюць перад вачамі юнага партызана-разведчыка. Холад вачэй, холад сталі і вясёлыя сонечныя зайчыкі міжволі прымушаюць здрыгануцца...
Я не раю...
Не раю...
Ты цярпеў, але гэта не ўсё...
Дзе атрад?
Дзе атрад, паўтараю!..
Ах, маўчыш!..
Курт, сарві-тка з бандыта рыззё!..
Першы зноў адным звычным рыўком раздзірае на спіне Марата акрываўленую, прысохлую да ран, кашулю, кідае

хлопца на брудную лаву катавальні, моцна прывязвае за рукі.
**Другі** (з ранейшай д'ябальскай іроніяй):
— Можа, гэта разбудзіць гаворку
І ахвота маўчаць праміне?
Хочаш зорку,
Чырвоную зорку?
Будзеш мець, будзеш мець —
На спіне!..
...Ай!
Зноў быццам на сцернішча-пожню
Кінуў хтосьці
Гарачай спіной.
Кожны рух,
Кожны ўздых,
Мускул кожны —
Быццам ранаю сталі
Адной!
Падалося:
У прысак распалены хтосьці
Акунуў,
Расхінуўшы імжу.
Сэрца ж думкам суладна
Выстуквае ў млосці:
«Не скажу!
Не скажу!
Не скажу!..»
Раптам
Нібы на міг пасвятлела —
Зірк
Праменьчык злавіў трапяткі.
Раптам
Нібы лучына затлела —
Цені змрочна —
Ў куткі, у куткі!
Разбрыліся па схованках
Здрадліва —
Дзе святло, іх, як соў,
Не шукай.
Хто да шчок дакрануўся спагадліва?
Ветрык?

Маміна, можа, рука?

Марат з цяжкасцю прыўзнімае галаву, намагаючыся ўбачыць таго, хто пачуўся яму ў гэтае імгненне, абмацвае спакваля падлогу рукою, але, не маючы сілы, трымацца, зноў апускае галаву на салому. Здаецца, трызніць... А можа, яму сапраўды прымроілася, што побач з ім мама, матуля, родны чалавек?..

**Марат** (у здзіўленні):
— Мама, ты?
Хто сказаў, як дачулася,
Дзе я?
Хто ўпусціў —
На дзвярах жа замок!

**Г о л а с м а ц і** (ласкава-пяшчотны):
— Сэрца маці здалёк
Чуць і ўбачыць умее,—
Падказала трывога, сынок...

**Марат** (спалохана):
— А цябе, а цябе не схапілі?
Ты не чула нямецкі загад?
Цябе, гэтыя ў чорным,
Не білі...
Не дапытвалі,
Дзе наш атрад?..

**Г о л а с м а ц і** (такі ж ласкава-пяшчотны, але з дрыготкаю, усхвалявана-ўзрушаны):
— Ты не бойся,
Не бойся, Марацік...
Што з табою зрабілі звяры?
Хіба ёсць у іх сэрца, ёсць маці?..
Я ўсё чую, сынок,
Гавары...
Бачу, слухацца словы не хочуць —
Засмягаюць на вуснах тваіх.
Хоць не ўслых,
Хоць шапчы іх, сыночак,—
Зразумею,
Пачую я іх...
Бачу — горача.
Бачу — балюча.
Ды цярпі,

Хоць знямог, хоць аслаб!
Каб змагла я —
Травінкай гаючай
Тут, на золкім муры,
Прарасла б!
Дацягнулася б
Лісцікам-промнем
Да ўсіх болек тваіх,
Да вачэй,—
Як ад подыху ветрыку з Проні,
Можа б, стала хоць трошкі лягчэй?
І няўжо з гэтай схоўні —
Ні кроку,
Ні сцяжынкі да родных бяроз?..
Ці здалося мне, сын мой, у змроку,
Ці папраўдзе,—
Ты быццам падрос!
Як не бачыла, колькі ўжо?
З тыдзень?
А нібыта — мінулі гады!..
Поўняй радасці,
Можа, узыдзе
Наша зорачка зноў,
Як тады?..
Помніш, помніш,
Як з Ветранкі ноччу
Уцякалі —
Аблава ішла?
Цемрадзь, шолахі, совы скігочуць,
Ні людзей,
Ні жытла,
Ні святла...
І тады нас бяда не дагнала —
След згубіла ў лясным гушчары.
Я наперад ішла,
Я не знала,
Што спаткаем сваіх у бары...
**М а р а т :**
— Помню мама...
Я добра ўсё помню...
Ці ж забудуцца ўцёкі ўначы?

Як і зараз,
Тады было цёмна:
Што ні крок —
То галлё,
То карчы.
Як і ты, следам я спатыкаўся
На карэннях,
Карчах і суках.
За сястрычку,
За Дзінку баяўся —
Не заплакала б хоць на руках!
**Г о л а с маці** (задуменна-прасветлены):
— Хвойнік ноч пад аблокамі гушкаў,
Месяц плыў, як па цёмнай вадзе...
Быццам крык перадранішняй птушкі,
Здаўся вокліч з кустоў: «Хто ідзе?»
Мне, прызнаюся,
Жудасна стала.
Сэрца —
Нібы спынілася ўраз!
А цябе ж,
Як тым ветрам сарвала:
«Мы да вас! Мы да вас! Мы да вас!..»
Ты, як жаўранак той, страпянуўся,
Падалося мне —
Ты акрылеў!
Па карчэўю
На вокліч рвануўся —
Проста дзіўна,
Як нос уцалеў...
Ты з калыскі ў мяне жаўрукуеш —
Падлятаў бы,
Ляцеў бы,
Звінеў!..
Я і рада ў душы,
І смуткую,
Што няйнакшы ты —
Гэткі ў мяне!
Не баішся —
Часіна ж не тая.
Хто з чужынцаў паспагадае?..

І тады, як пабег ты на вокліч,
Мне шапнуўшы: «Ты чуеш — свае!»
Мне здалося:
І сосны прымоўклі,
І дыханне ў грудзях не стае:
«Раптам гэта няпраўда, Марацік?!
Раптам гэта нямецкі заслон?!»
Зоркі пробліск...
Дазорны ў бушлаце...
І цяпер гэта бачу,
Як сон...
Золак гулка палохалі стрэлы,
Ды трывогі развеяўся змрок.
Нам прытулак далі.
Абагрэлі.
Ты світанак той помніш, сынок?
**М а р а т :**
— Помню, мама, да каліва помню:
Дымам дыхаў касцёр, як дымар...
На іглінках паблісквалі промні —
Прабівалася сонца з-за хмар...
Помню цёплы пагляд камандзіра,
Прамяністы, бы водсвет кастра.
Як ён рады быў,
Рады быў шчыра,
Як дазнаўся,
Што ты — медсястра:
«Вы ж для нас, для атрада — знаходка!
Ці не праўду кажу, камісар?..»
**Г о л а с маці** (неспакойна-скрушлівы):
— Мне балюча: не ў сілах я ўсё-ткі
Прысудзіць хоць на міг,
На кароткі,
Тваіх ран,
Тваіх вуснаў пажар!..
Мне балюча:
Пакутуеш ты,
А не тут,
Не са мною —
Бінты.
У біклазе —

Ні кроплі вады:
Як на крылах,
Ляцела сюды —
І забыла, забыла
Узяць!
Як твой боль,
Тваю смагу
Суняць?..
А не страшна, не страшна, сынок, цемнаты?
Ты ж адзін тут, адзін...
Гэта цемрадзь і ты!..
**Марат:**
— Ты не бойся...
Не страшна мне, чуеш,
Хоць і колецца цемра жарствой.
Не баюся,
Бо ў спраце сяджу я
Не адзін:
Чую голас я твой...
**Голасмаці:**
— Як ты трапіўся ім,
Раскажы мне,
Каб здагадак развеяўся змрок.
На палянцы якой,
На сцяжыне
Падсцярог цябе вораг, сынок?..
**Марат** (нібы ў забыцці, разбітымі і засмяглымі вуснамі, паўшэптам, напружана падбіраючы словы):
— Як ішоў на заданне з атрада,
Не чакаў, што бяда спатыкне.
Ды на ўзлеску сядзела засада,
Затрымалі, схапілі мяне...
Як прывезлі на допыт, паганцы,
Пацяшаліся: «Што з ім зрабіць?..»
Зашчамлялі... у дзверы пальцы...
Білі ўсяк —
Чым маглі толькі біць...
Оберст іх быццам з прывязі рваўся,
Быццам вытрасці думаў душу:
«Партызан? Партызан? Прызнавайся!..
Я ж адно: «Хлеба ў вёсках прашу...»

Перад катамі ў штабе варожым
Не скупіўся на слёзы, на плач...
І фашысты паверылі б, можа,
Каб не здраднік,
Не іх паслугач...
Мне жыццё абяцаюць прыблуды —
Адкупіцца чужою крывёй.
Але як жа я жыць тады буду
Без цябе,
Без сястрычкі сваёй?..
Як жа потым у вочы я гляну
Камісара,
Сяброў баявых?
Як змагу я збіраць на палянах
І грыбы
І суніцы
Без іх?..
Як змагу бегаць сцежкамі ў жыце,
Слухаць шэпат
Бярозак, рабін?..
Не, лепш вы ўсе —
Жывіце, жывіце,
А на смерць я пайду,
Я — адзін!..
Ты даруй,
Не магу я іначай...
Кат у гневе нажом крамсане —
Не стрываю,
Ускрыкну,
Заплачу,
Ды ні слова
Не выб'юць з мяне!..
Гэта ўсё перадай камандзіру:
Я не здрадзіў,
Я тайну збярог...
Каб не злыдні,
Што ў чорных мундзірах,
Каб не раны,—
І сам бы я змог...
Ды адгэтуль не выбрацца, мусіць,—
Не вярнуцца з разведкі ў атрад...

Юны разведчык зняможана сціхае на падлозе.

Толькі чутна, як, нібы пасля доўгай прабежкі, тахкае, ледзь не вырвецца з грудзей спакутаванае, збалелае сэрца, ды ў вушах балюча: «тук-тук-ток, тук-тук-тук-тук-ток!» Нібы хтосьці нябачны малаточкамі грукае. Нібы іголкі ў скроні, у патыліцу заганяе!.. Тук-тук, тук-тук-ток...

І раптам зноў голас чуецца. Гэты. стукат, гэты боль прыглушае. Ды. не матулін чамусьці голас, не... Няўжо камандзіра? Няўжо Іван Пятровіч, не дачакаўшыся яго звестак, сам у разведку адправіўся?.. А звесткі ой як патрэбны былі!.. Каб па фашыстах стукнуць, каб ім «падарунак» паднесці... Да гадавіны з пачатку вайны...

Пасылалі разведчыкаў у Кузькавічы, ды ніхто з іх не змог прабрацца туды: навокал вёскі — чыстае поле. І тады начальнік разведкі Сівагракаў прапанаваў камісару атрада: «А што, калі паслаць Марата? Хлопец ён спрытны, кемлівы. Ужо неаднойчы, выручаў нас...»

І камандзір атрада згадзіўся з імі: «Выйсця іншага ў нас няма... Чуеш, Марат, на цябе ўся надзея... Будзь асцярожны...»

З надзеяй на ўдачу яго, Марата, на разведку ў Кузькавічы пасылалі... А ён...

**Г о л а с к а м а н д з і р а** (упэўнены, цвёрды):

— Ты, Марат, у бядзе апынуўся,
Не ступіў жа —
Ні кроку назад!
Мне вядома,
Вядома атраду —
Ты трымаўся, Марат,
Як салдат!
Не пайшоў на прынаду —
На здраду,
Ты ў палоне,
Ды — з намі, Марат!
Не зламаўся,
Падобны былінцы,
Ты ў гестапа,—
Ім, катам,
Назло!
Я клянуся:
Адпомсцім чужынцам —

Наша сонца
Нам зорыць святло!
А фашыстам —
Ніякай спагады!
Іх маланкамі
Будзем сляпіць!
Помніш
Тую засаду?

**М а р а т :**

— Помню... Як жа забыць?!.

Марат зноў на імгненне замірае, нібы прыслухоўваецца да водгулля таго і далёкага і блізкага, першага ў яго жыцці бою. Падзеі ажываюць выразна, нібы ён глядзіць кіно, што прывозілі перад самаю вайною ў іх вёску...

...Партызаны «асядлалі» дарогу на Быхаў. Заляглі. Падрыхтаваліся. Усе застылі ў напружаным чаканні: гул варожых машын чуецца ўсё бліжэй і бліжэй.

«Не баішся? — непрыкметна падпоўзшы, крануўся Маратавага пляча камісар атрада дзядзька Мікола.— Асабліва не вытыркайся. Куля, яна не выбірае, хто перад ёю...»

«Ну, брацe Мараце, глядзі і запамінай, як патрэбна біць ворага»,— не то жартам, не то ўсур'ёз прагаварыў Іван Пятровіч Дзюба, іх камандзір, і залёг, сцішыўся, засяроджана ўзіраючыся ў цемру.

Удалечыні мільганулі фары аўтамашыны, а правей — промень пражэктара прасвідраваў цемру і дзесьці паблізу растаў... Вось яны, карнікі, зусім побач! Камандзір першым жа стрэлам знішчыў шафёра. Машына звярнула з дарогі і пачала хіліцца ў балота. З кузава выскачылі фашысты і адкрылі бязладную страляніну. Марат чуў: кулі ціўкаюць, збіваючы галінкі хмызняку, зусім побач, недзе над ім, над галавою, але ж ці могуць яны разгледзець яго ў гэтай густой, чорнай як сажа цемры? Ды яшчэ — калі ён прыціснуўся да зямлі, нібыта зросся з ёю. Не, не ад страху: ён трымаў напагатове гранаты, якія, каб не згубіліся ў гэтай начной сумятні, даў яму ў рукі камандзір.
Хутка ўсё на дарозе сціхла.

«Адыходзь! — падаў гучную каманду камандзір атрада.— Зброю, зброю, таварышы, усю падабралі?..» Вярталіся ў лагер шпарка, не прыпыняючыся: немцы ноччу асабліва не кінуцца ў пагоню, але ж... Марат ледзь паспяваў за астатнімі байцамі: нязвыкла адцягвала рукі, раз за разам чаплялася, блыталася ў галлі цяжкая трафейная вінтоўка,

якую падхапіў на ўзбочыне, калі разам з усімі выскачыў з засады на дарогу. «Што, партызан, угрэўся? — наблізіўся да яго камісар атрада Мікалай Карпавіч Барысюк.— Дай падмагу...»

«Не трэба, я сам данясу...— стрымліваючы дыханне, адвёў руку з вінтоўкаю Марат.— Хіба вам лягчэй...» «Ну то глядзі сам,— здаецца, усміхнуўся камісар.— Прывыкай, брат, да ўсяго... Не ўпершыню ж, магчыма, давядзецца з трафеямі вяртацца...» Ад гэтага мройнага ўспаміну на нейкі момант нібыта зрабілася лягчэй. Гэта ж ён, Мікалай Карпавіч, пераканаў тады камандзіра атрада Дзюбу ўзяць на тую баявую аперацыю: з кухні, ад партызанскага кухара дзядзькі Сцяпана,— і адразу з сабою, у засаду, у сапраўдны бой! І арыентавацца ў лесе па зорках, па кронах дрэў хто яго навучыў?.. А хто ў разведку выпраўляў? У тую, у самую першую, у Ніканавічы, і ў гэту, апошнюю?..

Марат заварушыўся, пачаў узірацца ў цемру, быццам шукаючы некага вачыма: можа, і камісар недзе побач? Раз камандзір тут, дык і ён павінен быць!.. Хіба што не ведае нічога?.. Не, не можа быць!.. Ён тут, ён не можа пакінуць свайго разведчыка ў цяжкую хвіліну... Толькі чаму горка ўздыхае, чаму маўчыць?..

**М а р а т :**

— Таварыш камандзір...
Таварыш камісар...
Не схіляйце плячэй, бы ў няшчасці,
Не хавайце самотных вачэй.
Я загіну...
А вы іх знішчайце!
Прэч ганіце фашыстаў хутчэй!..
Прад вачыма —
Чырвоныя хвалі...
І плывуць...
І гайдаюць мяне...
«Падарунак», што ім рыхтавалі,
Ці «паднеслі» фашыстам,
Ці не?..

**Г о л а с к а м і с а р а** (басавіты, з ноткамі ўзнёсласці, але не такі чамусьці, як чуў раней, на партызанскім мітынгу, крышку задуменны, мякчэйшы, ды ўсё ж палымяны):

— Гнеў у сэрцах — вулканам гарачым,

Сэрцы помстай гудуць,
Як званы.
Іх, чужацкай крывёю, адзначым
Чорны іх юбілей —
Гадавіну вайны!
Не ўцячы ім ад помсты, ад гневу
Ні гасцінцам лясным, ні шашой:
Паднясём «падарунак» —
Да неба
Узнясуцца адразу паганай душой!
Хоць стараюцца каты з гестапа,
Ад шаленства скрывіўшы раты,
Хоць папаў ты ў драпежныя лапы,—
Не яны пераможцы,
А — ты!
Над табою і каты і краты,
Ты ж не змогся —
Душой пацвярдзеў!
Будзе радасць, Марат,
Будзе свята,—
Подзвіг твой азарыў
Гэты час,
Гэты дзень!
Як зара, што на чэрвеньскім золку
Асвятляе прасцяг, зіхаціць,
Твая зорка,
Шчымлівая зорка
Будзе нам кумачова ў паходах свяціць!
**Голаскамандзіра:**
— Зможам — выручым,
Ды — ўсё ж трымайся, Марат:
Каты допыт на гэтым
Не спыняць...
Наўрад...
Волю сцісні ў кулак!
Будзь, бы крэмень,
Маўчы!..
Ведай:
Цяжка, Марат,
Нам табе памагчы...
**Марат:**

— Гэта я зразумеў...
Гэта я разумею...
З вамі — вось гавару...
З імі ж —
Зноў як знямею...
А мяне ратаваць —
Можа быць і няўдача:
На двары ўдзень і ўноч
Кулямётная варта.
Я ж разведчык:
Як везлі да штаба,
Сам бачыў —
Шмат іх, фрыцаў паганых,
А нас — малавата...
Бачыў — танкі стаяць,
Мінамёты, гарматы...
Не, цяпер іх не ўзяць —
Нашых зляжа багата!..
**Г о л а с к а м і с а р а** (упэўнена-цвёрды):
— Праўда, сілы ў іх многа,
Ды мацней мы з табою:
Вера у перамогу —
Наша сіла і зброя!
Наша сіла і зброя —
Мужнасць, стойкасць герояў!
Покуль сэрца стукоча,
Покуль свецяцца вочы,—
Веру:
Катам не выбіць
З тваіх рук
Гэту зброю!..

Камандзір і камісар нечакана нібы адыходзяць некуды, расплываюцца ўдалечыні — крывава-хвалістай, знікаюць з вачэй. Можа, пайшлі падымаць па трывозе атрад? Але ж з гэтага — чуеце ці не? — наўрад ці выйдзе што: байцоў у атрадзе не дужа багата! Хіба з такой сілай пераможаш нямецкі гарнізон?..

**М а р а т :**
— Мама, ты пачакай,
Пабудзь трошкі яшчэ:
Калі чую сваіх —

Менш баліць,
Менш пячэ...
Як там Дзінка,
Як наша малая?
Ёй не сумна адной?
Усё ў лялькі гуляе?..
Не кажы ёй
Пра здзекі, пра зорку —
Будзе плакаць,
Баяцца,
Не спаць...
Лепш скажы,
Што зладўлю ёй вавёрку,
Як прыйду:
Будзе рада чакаць!
Падрасце —
Аддасі ёй мой гальштук...
Ён жа светлы,
Як сонейка ўсход...
Ён жа, гальштук мой,
Новы амаль што —
Толькі год пранасіў,
Толькі год...

**Г о л а с м а ц і** (горасны, у ім чуецца шчымлівае пачуццё немінучай і вечнай разлукі з сынам, пачуццё, у якім прабіваецца і гордасць за яго мужнасць, за яго стойкасць, непахіснасць перад ворагам):

— Добра, я зразумела, Марацік,
Хоць, павер, цяжка ўсё зразумець:
Ты ж — сынок мне...
Я ж маці...
Я ж маці...
Як змагу,
Як паверу я ў смерць?
Ці знайду я калі суцяшэнне,
Ці шчаслівa ўсміхнуся калі,
Каласок мой
На полі асеннім,
Каласок мой
На горкай зямлі?..

Я не ведаю,
Што нас чакае:
Кожны дзень —
У трывогах, баях,
Але матчына доля такая:
Смерць сыноў ім —
Страшней, чым свая…
Я не веру
(Хоць думкі палоняць)
У разлуку, сыночак,
З табой:
Можа, гэту зладзейку
Прагоняць
Слёзы матчыны,
Смутак і боль?..
Аднаго не змагу пабаяцца —
Ганьбы, сынку мой,
Ганьбы людской:
Змог ты чыстым душою застацца
Прада мной
І Радзімай сваёй…
Назаўжды…
Назаўжды…

Пачуўшы гэта, Марат, бы ў нейкім утрапенні, раптам ускідвае галаву, узіраецца ў паўзмрок гестапаўскага скляпення, замірае, нібыта прыслухоўваецца да нейчага далёкага голасу, спрабуе ўстаць, але сілы зноў пакідаюць яго, маленькага вязня, ён зняможана падае ніцма на брудную падлогу, зацярушанаю саламянай пацярухай, якая на момант забіла дыханне, востра заказытала ў горле. Хрыплы кашаль вырваўся з худзенькіх грудзей, балюча адазваўшыся па ўсім целе…

**Марат** (у знямозе):
— Мама, мамачка, дай мне вадзічкі…
Піць мне хочацца…
Хочацца піць…
Мне б глыток хаця з нашай крынічкі…
Чуеш, мама,— жыве!..
Чуеш, мама,— звініць!..

Крыніца. Яе пералівісты галасок, здаецца, чуецца зусім побач: толькі працягні руку — і адчуеш яе празрысты халадок, бліжэй пачуеш яе песню. І светлую і журботную:

— І хмарным вечарам, і ўранні —
Заўжды, як срэбра, плынь мая.
Хто замаркоціцца, прыстане,—
З глытком вады
Дам сілу я.
Журчу, струменюся, вірую —
Такі мой лёс,
Такі мой плёс.
Дзе чысціню сваю бяру я?
У рос,
У зорак,
У нябёс.
Здалёк чуваць мой спеў вясёлы,
Ён звонкі ў спёку і ў мароз.
Дзе я бяру свой спеў, свой голас?
У траў,
У птушак,
У бяроз.
З глыбінь да сонца шлях прабіла,
Каб рады людзі мне былі.
Дзе я ўзяла такую сілу?
У роднай матухны-зямлі.
Чаму ж, чаму ж вада жывая
Салёнай стала,
Не такой?
Не дождж, а слёзы палiваюць
Зямны абшар,—
Цякуць ракой!
Чаму ж цяпер струмень бруісты
Журботна-сцішана журчыць?
Ваду маю —
Мой спеў празрысты —
Чужынцы хочуць заглушыць!
Ды не, пакуль крыніцы звоняць,
Глядзіцца ў іх блакіт нябёс,
Зямля ўратуе, абароніць
Іх чысціню,
Свой бор,
Свой лёс!..
Жыць буду я, бо я крыніца!
Квітнець зямлі,

Рунець вясне!
Бяру я сілу —
У зямліцы,
Зямля ж і людзі —
У мяне!..

Марат сціскае непаслухмяныя кулакі, намагаецца паўзці да яе, да крыніцы, але крывавы туман і крывава-чорныя цені зноў зліліся ў ліпкае марыва, здаецца, балюча ахуталі яго, некуды панеслі — ад гэтага зрабілася яшчэ болей пакутна і млосна...

**Марат** (стогне, шэпча):
— П-пі-іць... Глыток мне...
Ты чуеш, крыніца...
Не сціхай... не ўцякай да святла...
Сціхла, сціхла зусім... не напіцца...
Сціхла, сціхла зусім... уцякла...
Сціхла...
Можа, твой голас мне здаўся,
Як і голас матулі ў журбе?..
Хто ж салют мне аддаў, прывітаўся?..
Чуеш, хлопец,
Не знаю цябе!..

Хлапчука, хударлявага, падстрыжанага, як і большасць вясковых жэўжыкаў, «пад нулёўку», з жывымі вачамі і, па ўсім відаць, непаседлівага, бойкага, ён не сустракаў чамусьці ні ў сваёй Ветранцы, ні ў суседніх вёсках... Колькі ж гадоў яму?.. Напэўна, равеснікі, напэўна, аднагодкі?.. Можа, голас дзе чуў?.. Не, чамусьці і гэты голас ніколі не чуў...

**М а р а т К а з е й** (усхвалявана-даверліва):
— Сапраўды, мы з табой не знаёмы,
Ды павер,
Ды сумненні рассей!
Не здзіўляйся прыходу такому:
Я твой цёзка —
Марат Казей.
Мне таксама балюча, да плачу,
І не сціхне мой боль,
Не міне,
Бо ніколі матулі не ўбачу,—
Маму злыдні забралі ў мяне.
Сэрца рвецца,

Да помсты гукае!
Не баяўся,
Што траплю ў бяду,—
Партызанскую сцежку
Шукаў я,
І знайшоў —
У атрад я іду!
Буду першым усюды, усюды —
Не па нораву мне цішыня:
Як і ты,
Я ж разведчыкам буду,
Мне дадуць
Аўтамат і каня!
Будзе гэта світанне
За сведку —
Не забуду пакуты твае.
Ты пачаў баявую разведку —
Я прадоўжу,
Закончу яе!
Я даю табе клятву,
Як брату,
Твой равеснік,
Твой друг-піянер:
У баі
Да апошняй гранаты
Буду біцца,
Змагацца,
Павер!
На сцяжынках лясных,
На гасцінцах,
Дзе захопнікаў —
Страх іх скубе,
Буду помсціць я,
Помсціць чужынцам
За свой край,
За бацькоў,
За цябе!
Покуль ворагі ходзяць,
Не кіну,
З рук не выпушчу я
Аўтамат.

А загінуць прыйдзецца —
Загіну,
Як і ты,
Па-геройску, Марат!
Веру —
Сцяг перамогі ўзаўецца
Над тваёй,
Над маёю вясной,
І сустрэнемся зноў —
На паверцы —
Піянерскай
Паверцы
Сваёй!..
**М а р а т К а з л о ў :**
— Не баюся я, дружа, памерці,
Бо адпомсціў фашыстам,
Як змог.
Нас усіх не сагнуць ім, не сцерці —
Я вярнуся на родны парог!
І сустрэнемся мірнай вясною,
Нашы гальштукі
Зноў зацвітуць...
Раптам насцярожана прыслухоўваецца.
Чуеш, крокі?
Напэўна, за мною.
Зноў на допыт мяне павядуць...
Ты ж, пакуль не заўважылі каты,
Адсюль выбрацца
Зможаш хутчэй?
Не давайся у рукі праклятым —
Ты змагацца павінен яшчэ!..
Зноў ідуць...
Можа, ёсць спадзяванне —
Дамагуцца,
Даб'юцца прызнання?
Можа, думаюць фрыцы —
Дарогу
Да сваіх назаву, пакажу?..
Не сказаў ім учора нічога
І цяпер —
Не скажу,

Не скажу!..
Незнаёмы хлапчук знік. А юны разведчык у які ўжо раз спрабуе падняцца, ды сілы хапае толькі каб сесці, прыхіліцца да халоднай сцяны мураванага скляпення...
Зноў прагрукалі боты і дзверы,
Зноў ударыла ў вочы святло.
Зніклі цені.
У прыцемку шэрым
Сонца —
Вогненны мяч —
Праплыло.
Ці ўсё гэта здалося,
Не болей?
Мяч —
Ахутаў крывавы туман.
На спіну
Бы сыпнуў хто вуголля...
**Кат** (нібы ў здзіўленні, схіліўшыся над ім):
— Ты жывы яшчэ, кляйн партызан?
Малайчына —
Умееш трымацца!
Ды не думай —
Даб'ёмся свайго!
І ахвота памерці ў дванаццаць?
І за што?
З-за каго?
З-за чаго?
Можа, скажаш,
Прызнаешся ўсё ж, дзе атрад?
Скажаш —
Жыць застанешся.
Не скажаш —
Наўрад!..
Ды ні слова, ні слова ім
Юны герой.
Вочы ўспыхнулі раптам,
Заззялі зарой.
Ён рукамі —
Падбітымі крыламі —
Нібы ўзмах развітальны зрабіў,
І з муроўкі,

Сабраўшыся з сілаю,
У світанак —
У сонца —
Ступіў!..

«Ваш сын Марат, нараджэння 1930 года, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, вучань, у баях за сацыялістычную Радзіму 26 чэрвеня 1942 года загінуў смерцю храбрых».

*З паведамлення Смаленскага абкома ВКП(б)*
*маці юнага героя Валянціне Мікалаеўне Казловай*

# СЫН ПАЛІКА

ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ... ПАСЛЯ СМЕРЦІ —
У СВЯДОМАСЦІ, У ПАМЯЦІ НАРОДА.

*Муса ДЖАЛІЛЬ*

I

Глядзіць зялёнымі вачамі
На сонца, жмурачыся, лес:
Пад прамяністымі дажджамі
Ён зноў ажыў,
Нібы ўваскрэс.
І сосны струнка мкнуцца ўгору,
Ім надта хочацца, відаць,
Да аблачын,
Да самых зорак
Густой вяршыняю дастаць.
А ўнізе кволая сасонка
Пацiху голлейкам трасе:
«Хачу я стаць такою ж звонкай,
Як сёстры сосны,
Як усе...»
А сонца быццам бы пачула
Гамонку сумную яе —
Ласкава рукі працягнула:
«Трымайся моцна за мяне,—
І я ўзніму твае галіны,
Дапамагу сясцёр дагнаць,
І ты —
Вятры
І спеў птушыны
У голлі будзеш калыхаць...»
Міхась яшчэ раз на сасонку
Задумна кінуў свой пагляд:
«Вось ты смяешся, рада сонцу —
І я яму таксама рад...»
І да сасончыных галінак
Міжволі цягнецца рука,
І праплываюць успаміны,
Нібыта хвалі Паліка.

2

Міхась раніцай тою
Прачнуўся раней.
Бацька з ложка прыўстаў,
Кашлянуў глухавата.
— Штосьці сэрца сціскае трывогаю мне,

Закурыў —
І падаўся паціхеньку з хаты.
Спала вёска.
За плечы кранаў
Халадок —
І прыемны і золкі.
Толькі певень
Сіпата крычаў
Ды ўсё клікала спаць
Перапёлка.
Пахла жытам,
Травою густой,
Крапівою і сырадоем.
Дымам шызым,
Густою расой
Пахла ранне
Нядзельнае тое.
Вунь жыта красаваць пачалі,
Ячмяні хутка вусы прысмаляць:
Дакранешся —
Нібыта чмялі
У далонь разагрэтую ўджаляць!
Луг чакае касцоў —
Як наздзіў травастой,
Упрыгожыўся гэткай чупрынай,
Што пастрыгчы яго
І з расой
Будзе цяжка,
Ой, цяжка мужчынам!
Будзе жніва —
Гарачыя дні.
Для яго,
Для ўсяго іх калгаса...
Ці ж да сну ў час такі старшыні,
Ці ж да сну ў час такі Апанасу?
Гэты клопат
Знаёмы здавён,
Ды чаму не сыходзіць трывога?
Хіба можа падвесці раён
«Пралетарская перамога»?
— Тата, чуеш? —

Бы кропля расы,
Звонкі голас скаціўся знянацку.
— Ты куды гэтак раненька, сын,
Ці не ў поле раней за бацьку?
Што не спіш? —
І зірнуў весялей,
І ўсміхнуўся, схіліўся над сынам.
— На экскурсію пойдзем,
Дык трэба раней
Каля школы сабрацца ўсім нам.
— А куды?
— На Палік.
Нам дырэктар казаў,
Што калісьці і ты ваяваў там.
— Так, сынок, ваяваў...
Не адну пратаптаў
Па лясах я сцяжынку з атрадам.
Дык вы хочаце класам усім
Па тых сцежках прайсціся,
Няйначай?
У лясах над Бярозай, мой сын,
Шмат слядоў засталося гарачых...
І згадаўся, прыпомніўся час
Партызанскіх баёў і вандровак...
— Не хапала патронаў у нас,
Не хапала вінтовак.
Але жыў рэвалюцыі дух —
За яе мы на бойку ўзняліся!
Так бывала —
Сухар на двух,
А вінтоўка — на трох —
І дзяліся!
І дзяліліся.
Дня не было,
Каб нідзе не грымелі засады.
Не забралі свабоды святло
Чужакі ў нас —
Не зналі мы здрады!
Кайзер сілай узяць нас хацеў
І пілсудчык шаблі вастрылі.
Ды ніхто нам ярма не надзеў:

Не даліся мы —
Дружна пабілі!
І тады, як ад ран я канаў,
У няволі быў, зведаў чужыну,—
Сэрцам бачыў,
Як сцяг наш лунаў,
Сэрцам верыў —
Я з ім не загіну!
І табе дам наказ я, мой сын,
Верай гэтаю будзь блаславёны!
Цяжка стане —
Ёсць выхад адзін:
Вер у праўду,
У сцяг наш чырвоны!
...Ранак плыў па-над Новым Сялом,
Не заўважыў Міхась той мінутай,
Што край неба
Барвовым крылом
Быў на захадзе
Усцяж ахінуты

3

Святлела сонца — і блакіт
Святлеў з хвілінай кожнай.
Над поймай ціхай лазнякі
Шапочуцца трывожна.
Рака плюскоча каля ног,
Цалуе бераг нізкі.
Відаць Міхаську тут і дно
і плотак спіны-рыскі,
Зязюлі вечнае «ку-ку»
Дарылі шчодра ранку.
Зірнуў Міхаська на раку,
На хвалі-калыханкі,
Якім на вейкі і ўначы
Сон нават не лажыцца.
— Зязюля.
Ну-тка падлічы,
Ці шмат гадоў пражыць мне? —
Гукнуў Міхаська за раку
Натхнёна,

Колькі сілы...
— Ку-ку, ку-ку!
Ку-ку, ку-ку! —
Зязюля зачасціла
Хлапцу шчасліваму ў адказ —
І водгулле жывое
Пайшло, пайшло па лесе ўраз
Між стромкіх елак, хвояў,
Прамчала
Па-над грэбнем хваль
І чаратоў цыбатых,
Нібы на крылах, несла ўдаль
Яго, хлапчыны, радасць.
І хто падумае, што дзесь,
Пад Брэстам,
На граніцы,
Вайна грыміць
Другі ўжо дзень,
Што топчуць край
Чужынцы?
Ледзь чутны кнігавачкі крык
На лугавым прыполе.
Няма занятку.
Дзень вялік.
Міхась ля рэчкі, ў полі.
Хоць ён зусім не рыбалоў —
І плотка не бярэцца,
Але ж сюды заўжды ішоў —
Любіў бываць на рэчцы.
Любіў між гэтых лазнякоў
Блукаць, згубіцца ў спёку,
Глядзець, як хвалі талакой
Плывуць, плывуць здалёку.
Плывуць марудна,
Як вазы
З цяжкой, вялікай ношай.
«Падрэжу-тка яшчэ лазы,
Даплесці трэба кошык...»
...Сінечу неба навылёт
Прарэзаў гул матора.
«Адкуль ён, гэты самалёт?..» —

Зірнуў Міхась угору.

4

Чорны птах закружыў,
Загудзеў над ракою.
Мільганулі крыжы.
«Што за ён, што такое?..»
Адказаў кулямёт
Ліхаманкава, спешна,
Секануўшы галлё
Лазнякоў прыбярэжных.
Бачыць смерць Міхасю
Не прыйшлося ні разу.
Па баках адусюль
Кулі пырскаюць граззю.
Кроў б'е ў скроні:
«Бяжы!
Мо лазняк уратуе!
Будзеш жыць!
Будзеш жыць!
Будзеш жыць!
Будзеш жыць, Міхасёк...
Ці ты чуеш?..»
Толькі страшна яму
Ля ракі аднаму.
Сэрца птушкаю б'ецца,
Холад сцісквае сэрца:
І ні плач,
І ні крык
Не пашлеш адгалоссем,
Да зямлі ён прынік,
Быццам, з цёплаю,
Зросся.
Можа, злою чаргой
Хіжы вораг не дойме?..
Супыніўся агонь,
Стала ціха над поймай.
Можна бегчы дамоў,
Вось прыўзняўся нясмела —
Дым ад вёскі ішоў,
Пахла сажай, гарэлым.

5
Жытнела
Новае Сяло.
Яно жыло,
Яно цвіло.
Яно ад рупных пчол
Гуло.
Яно з акон
Ліло святло —
Прасторам сонечна было.
Жыло па-новаму сяло —
Старое ўсё ў нябыт сплыло!
Ды зноў над ім
У чорны дзень
Запляміў сонца
Чорны цень.
Дзе тая радасць,
Што калісь
Звінела тут,
Крыляла ўвысь?
Чаму,
Як глянеш у акно,—
Адно на вуліцы
Відно:
Не жураўкі
Ля родных хат —
А танкі,
Хобаты гармат;
Не вёдраў звон —
Матораў грук,
На зрубах —
След ад брудных рук;
Не весніц скрып,
А скрыгат сталі;
Не песні —
Стрэлы
Глушаць далеч,
Чужая мова
На дварах...
Гнеў мацярок,

Дзіцячы страх...
Сцішэла
Новае Сяло,
Нібы дзятвы ў ім
Не было,
Сады вясною
Не цвілі,
У вуллях пчолы
Не гулі,
З акон не зорыла
Святло —
Нібы мадзела,
Не жыло...
Жыло, аднак,
Жыло сяло! —
Вінтоўку ў рукі
Узяло!
З двароў
На сцежкі у гушчар бароў —
Пазвала
Помста змагароў.
Збірала помста
У атрады,
Вадзіла помста
У засады:
З-за хат,
З-за дрэў,
З-за валуноў —
Выглядвала
Вачмі стваλоў,
На мушку брала,
Як з байніц,
Звяроў двухногіх —
Чужаніц...

6
Гула,
Разгневана свістала,
Як пуга-дротаўка, пурга.
Па твары сечкаю сцябала,
Змяёй круцілася ў нагах.

Губляўся шлях у гурбах нізкіх,
Ды адзінокі санны след
Прымеценаю, мяккай рыскай
Уперад слаўся,
Бачны ледзь.
Такое па душы хлапчыне:
Мацней, пурга, круці свой млын!
У полі гэтаю часінай
Адны снягі,
І ён — адзін.
І светла, радасна Міхаську —
Няхай гуляе крутаверць:
Не ўзніме Фрыц вачэй з-пад каскі,—
Гані каня,
Спяшайся, едзь!
А дзесьці з лесу на заданне
Зноў партызаны выйшлі.
Зноў,
Пакуль завея не прыстане,—
Бліжэй да схоў
Фашысцкіх соў!
Ды што там думаць:
«Дзесьці», «недзе» —
Пра гэта ведаюць не ўсе —
Ён не да цёткі ў госці едзе,
А партызанам соль вязе.
Патруль не сунуўся б знянацку...
А санны след ледзь-ледзь відзён...
«Бяды б не здарылася з бацькам:
Не дрэмле вораг, хітры ён.
З чаго б яшчэ па вёсцы зранку
Блукалі «бобікі» турмой?..»
...Дамоў вярнуўшыся,
на ганку
Застыў Міхаська сам не свой.
— Што з вамі?
Бацька дзе?..—
А сэрца
Нібы знямела ў гэты міг.
Пагасла ўсё ў вачах, здаецца,—
Заслала горкімі слязьмі.

— Забралі, родненькі, забралі!
Хто выдаў, высачыў калі?
— Куды забралі — не сказалі?
— Ў Барысаў, чула, павязлі...

7
Бор шуміць векавы
І, здаецца, ля сцягу
Шлем свой зняў з галавы
І прымае прысягу.
Паўтарае, здаецца,
З партызанамі ён
Словы тыя,
Што ў сэрца
Западаюць агнём.
Рэха іх адзавецца,
Грымне хутка,
Як гром!
Светла мроі снуюць —
І сябрам
І Радзіме
Хлопцы клятву даюць —
І Міхась
Разам з імі.
Пад рукою —
Вінтоўка.
А пагляд прамяністы.
Ён чакаў яе доўга,
Гэтай хвілі ўрачыстай...
Нават сцішыўся верас,
Стала ціхай паляна:
Прысягаюць на вернасць
Навічкі-партызаны.
...Ціш чаргою прарвана,
Дзень нахмурыўся сіні.
Ў бой пайшлі партызаны
І Міхась —
Разам з імі.

8

«У друкарні падпольных райкома і гаркома КП(б)Б, створанай А. Ф. Забалоцкім, Д. Ф. Капытковым, Н. А. Левашовай, М. І. Сыраваткам, П. М. Юраўскім, падпольшчыкі надрукавалі і распаўсюдзілі 158 300 экземпляраў газет, лістовак, адозваў».

*Беларуская Савецкая Энцыклапедыя*

«Калі партызан не толькі з вінтоўкай, але і з лістоўкай, тады ён больш аўтарытэтны...»

*З размовы сялян вёскі Слабада*

Плешчаніцкага раёна
Жураўлінаю песняй
Адгукнулася восень.
Рэха боек гарачых
Па лясах уляглося.
Зноў лістотай падвялай,
Як настоем, запахла,
І травіца ў самоце
Пажаўцела, зачахла.
Не пабачыць цяпер ёй
Сонца зыркіх праменняў,
Зноў хмурынкі на небе —
Полаг шэры, нязменны.
Ды сухою галінкай
Трэсне стрэл за ракою.
...Ля начлежнай зямлянкі
Пад зялёнай сасною
Пасыльны паказаўся:
— Да Мурашкі, Усоскі!..
«...Можа, зноў з камісарам
Я паеду па вёсках?
Ёсць нямала навін,
Людзі ведаць павінны,
Як ваюе атрад,
Франтавыя навіны...»
— Добры дзень!
— Добры дзень! —
Камісар прывітаўся.
Карту склаў,
З-за стала

Ён насустрач падаўся.
Быў ён рады, відаць,
Ззяла ўсмешка ў паглядзе:
— Як жыццё, партызан?
Не сумуеш па хаце?
Каб не сумна было,
Добра памятай,
Дзе ты…
У друкарню патрэбна схадзіць —
Ёсць лістоўкі,
Газеты…
Ды паболей прасі.
Бачыў —
Рады ім дужа!
— Да каго ж там зайсці?
— Да рэдактара, дружа.
Там табе ўсё раскажуць,
Пойдзеш з гэтай запіскай.
Зброю ўзяць не забудзь:
Да друкарні —
Няблізка…

* * *

Ён яго уяўляў
З сівізной, у маршчынах.
Перад ім жа стаяў
Не рэдактар —
Хлапчына!
З твару —
Юны зусім.
З Міхася, пэўна, ростам.
І трымаецца з ім
Не сурова,
А проста.
Просьбу выслухаў —
І
Уздыхнуў, як у скрусе:
— Так скажы камісару:
Дзе я іх набяруся?
Не адны ж вы ў мяне,
Сем атрадаў —

Багата!
Іх чакаюць усе
У брыгадзе, як свята!
Не бядуй:
І ў запас
Будуць, будуць лістоўкі!
Нездарма ж яны ў нас —
Як патрон
Да вінтоўкі!
Чый ты сын?
— Апанаса...
— Пачакай!.. Ці не тога?..
Я знаў бацьку твайго...
Што ж,
Не зробіш нічога,
І суцешыць, браток,
Ці патраплю цябе я?
Што рабіць —
Знаеш сам...
— Знаю ўсё, разумею!..
Можна лісцік паперы?
— Калі ласка,
Бяры вось!
Капыткоў, здагадаўшыся,
Знік за дзвярыма.
А Міхаська пісаў,
Ён пісаў у газету,
Ён хацеў расказаць
Сёння цэламу свету
Пра бяду,
Пра свой боль трапяткі,
Што, як злыдзень,
Прынесла навала.
Гнеў хлапечы
Выводзіў радкі,
Сэрца —
Іх дыктавала:
«Мой бацька — былы чырвоны партызан грамадзянскай вайны. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна і фашысцкія акупанты прыйшлі на нашу зямлю, ён стаў дапамагаць партызанам зброяй, адзеннем і

харчаваннем. Зімой паліцэйскія арыштавалі і адвезлі яго у барысаўскую турму. Там гітлераўскія каты забілі яго. Сэрца маё напоўнілася смуткам і яшчэ большай нянавісцю да ворага. Я ўстанавіў сувязь з партызанскім атрадам, выконваў яго даручэнні па разведцы, а зараз сам уступіў у атрад з вінтоўкай у руках. Я клянуся дакладна выконваць загады камандзіраў, строга захоўваць партызанскую тайну. За кроў і смерць майго бацькі я знішчу дзесяткі фашысцкіх катаў».

*Газета «Чырвоны партызан»*
*20 верасня 1942 года*

9

Да бою рыхтаваліся ад ранку.
Зімовы ранак скупа залацеў.
Ля печак у пракураных зямлянках
Хто жартаваў,
А хто маўчком сядзеў.
Бо думаў перад боем кожны
Аб нечым запаветным, аб сваім,
Што страціць можна,
Назаўсёды можна,
Калі ўпадзеш
Пад кулямі ў баі.
Міхась над печкай шчыраваў,
Бы ўзімку дома,—
Трашчаў, скакаў агонь па сушняку,
І печка цеплынёй такой знаёмай
То шчокі казытала,
То руку...
...А ноччу бой быў за мястэчка Зембін.
Па цаліку Міхась
Між першых бег.
Ракеты ўсё часцей
Сляпілі неба,
Ружовіўся,
Чарнеў узбіты снег.
І вось нарэшце
Вуліцы і хаты,
Абрысы дрэў маўклівых і прысад.

Захлёбванне і лёскат аўтаматаў,
Вінтовак грукат, выбухі гранат —
Усё змяшалася ў суцэльным гуле:
Узрывы,
Стрэлы,
Воклічы «ура».
Нібы шалёныя,
Свісталі кулі,
І людзі падалі
На вуліцах, дварах.
Бліжэй, бліжэй —
Да плошчы партызаны.
Шарэе ў цемры
Здань царквы над ёй.
Яшчэ рывок!
Ды тут неспадзявана
Званіца ажыла —
Чаргой-змяёй!
І брук ажыў, адразу заіскрыўся,
Нібы ад малаткоў
У сотнях рук.
Залёг узвод.
З зямлёй і цемрай зліўся,
А кулямёт грыміць,
Шчапае брук.
Зубамі ўзводны скрыгатнуў,
Нібы ад болю:
Царкву, як крэпасць,
Ім не ўзяць без бою!
— Няўжо атака наша захлынецца,
Над сэрца джала гад паўзучы ўткне?
Хто знішчыць кулямёт,
Хто прабярэцца?..
Міхась падпоўз:
— Дазвольце гэта мне!..

* * *

...Зардзеўся ранак стужкаю барвовай
На ўсходзе,
Бы на шапках у байцоў.
...Ідзе Міхась па вуліцы зімовай

Пад позіркі зайздросныя хлапцоў.
Ім ёсць з чаго сягоння падзівіцца,
Выглядваюць з-за весніц,
З-за платоў.
А ён ідзе,
Не можа прыпыніцца:
Ён канваір —
Вінтоўка наўзгатоў.
Суціхлі стрэлы.
Гарнізон разбіты.
На вуліцы мястэчка гамана:
Крывавай ночы не было нібыта,
Нібы на міг
Забылася вайна.
А напамін аб ёй, аб гэтай ночы
Па бруку чорным,
Як па вугалях,
Пад Міхасёвай вартай змрочна крочыў
У чорных паліцэйскіх шынялях.
Здавалася,
Іх шомпалам хто вытнуў —
За здраду,
Здзекі
Раптам пакараў.
На бацьку, можа,
Нехта з гэтых злыдняў
Рабіў засаду,
З хаты забіраў?..
Ім не ўдалося ў час начной атакі
Ад помсты збегчы ў поле, у кусты.
Ішлі, нібы пабітыя сабакі,
Стуліўшыся,
Падціснуўшы хвасты.
Ішлі панура, хмура, без аглядкі —
Не ўбачыць бы агню вачэй людскіх!
Служылі шчыра «новаму парадку»,
А ён ці абароніць зараз іх?
На ўсіх сустрэчных
Зіркалі з апаскай —
Імгліўся страх у позірках прыблуд.
— Куды вядзеш іх, здраднікаў, Міхаська?

— На плошчу.
Будзе партызанскі суд...

10

Бліжэла ў думках
Роднае сяло.
Яго святло
З лясных сцяжын вяло.
Міхась прыходзіў уначы —
Святло журылася ў карчы,
Скакалі цені
На падлозе,
Як думкі матчыны, ў трывозе.
Стаўляла маці саганок:
— Пагрэйся бульбінай, сынок...
Міхась матулю
Сэрцам разумеў,
Стараўся супакоіць
Як умеў:
За стол сядаў —
З пяшчотай Ксеню
Садзіў, як бацька калісь,
На калені.
Падміргваў Раі:
«Не крыўдуй, сястрыца,
Табе ж пайшоў пятнаццаты
Як быццам?..»
Сухар-жытняк
З яго кішэні
Хаваўся ў цёплай жменьцы
Ксені.
Сястрычку туліць ён,
А тая:
— Пусці, і я ўжо ж
Не малая...
Смяюцца ўсцешана усе.
А сум —
Бліжэе пакрысе.
Расстання сум,
Чакання сум.
Ці мала ў сэрцы

Цяжкіх дум?
Датлеў смаляк.
У хаце змрок.
— Калі цябе чакаць, сынок?
— Калі цябе чакаць, браток?
— Падсохнуць сцежачкі чуток,
І зноў, як сёння,
Забягу:
Без вас
Я доўга не магу...
Вінтоўка зварухнулася ў руцэ...
Слязінка развітання на шчацэ...
Матулі
Сумна-ласкавы пагляд...
...Наскочыў ранкам
Карнікаў атрад.
Парушыў раніцу
Не весніц скрып —
Плач мацярок,
Дзіцячы ўсхліп;
Не вёдраў бразгат —
Цяжкіх ботаў грук;
Не спеў шпачыны —
Гыркат:
— Шнель!
— Цурук!
Дым
Не над комінамі ўзвіўся —
Як свечкі,
Стрэхі заняліся...
Няўжо стаяла тут сяло?
Няўжо жыло?
Няўжо цвіло?
Няўжо ад рупных пчол
Гуло?
Няўжо з акон
Ліло святло?..
...На месцы хатаў —
Прысак...
Тло...
Дзе ж людзі з вёскі?

У гумне.
Іх, можа, гнеў агню
Міне
І карнікаў звярыны здзек?..
Гумно —
120 чалавек,
120 сэрцаў трапяткіх,
Пакуль яшчэ —
Жывых,
Жывых!..
...Агонь узвіўся над страхой,
Паплыў увысь
Дымком-смугой.
І стрэлаў трэск,
І трэск агню
Ускалыхнулі цішыню.
Ускалыхнуў прадвесне плач і крык.
Ты чуў,
Ты бачыў
Гэткае, Палік?
...Шугнула полымя вышэй, люцей.
Як дровы,
У агонь —
Дзяцей!
Р а я :
— Ой, мама, мамачка, смыліць!
Ой, мама, мамачка, баліць!
Ой, мама, мамачка!..
Ой, ма-а-а-а-а!..
...Была —
Няма...
А п а н а с і х а :
— Дачушка, чуеш, не маўчы,
Дачушка, чуеш, ты крычы!
Няўжо цябе ніхто не ўчуе?
Ніхто не прыйдзе,
Не ўратуе?
Няўжо, няўжо у гэты міг
Не бачыш ты вачэй маіх?
Няўжо гасподзь не бачыць мукі?
Не я —

Схапіла смерць за рукі!
Няўжо цябе ў абдымках спёкі
Не я —
Агонь цалуе ў шчокі?
Мне б лепш на гэта не глядзець,
Мне б лепш з табой, з табой згарэць!
Ды бачыш, злыдні,
Як звяры, трымаюць:
Што ў думках маюць?
Пусціце, вылюдкі, пусціце!..
Удар!
І — згасла ўсё ў блакіце...

А п а н а с і х а :

— Сынок, ты блізка ў гэты час?
Прыйдзі...
Адпомсці ім за нас...
Было сяло?
Было спрадвек?
Было
120 чалавек?..

«...іншых навасельскіх жыхароў гітлераўцы пагналі на партызанскія міны — такім чынам абясшкоджвалі мясцовасць. На міне падарвалася Мішава маці...

З блізкіх родных заставалася ў Мішы толькі сястра Ксеня. У красавіку 1943 года, вярнуўшыся з чарговага баявога задання, Міша зайшоў на месца роднай вёскі. Ксені ўжо не было. Гора яго было бязмернае...»

*З успамінаў Д. Ф. Капыткова, былога рэдактара газет падпольнага Барысаўскага ГК і РК КП(б)Б і партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі»*

11

Глядзіць зялёнымі вачамі
На сонца, жмурачыся, лес.
Пад прамяністымі дажджамі
Ён зноў ажыў,
Нібы ўваскрэс.
І сосны струнка мкнуцца ўгору,
Ім надта хочацца, відаць,

Да аблачын,
Да самых зорак
Густой вяршыняю дастаць.
А майскі дзень такі цудоўны.
А ў неба глянь —
Не ўбачыш дна...
Зусім забыў хлапец сягоння,
Што на зямлі ідзе вайна.
Нібы прагналі ўжо адгэтуль
Ліхую наймічку-вайну,
Нібы зышла яна з планеты,
Ахвяру ўзяўшы не адну...
Ды зноўку —
Сэрца зашчымела,
Нібы яго агонь апёк.
Як дымам,
Вочы засланіла
Сляза —
Салёны ручаёк.
Малюнак,
Жудасны да болю,
Ізноў ажыў:
Гарыць гумно...
Гарыць сяло...
Па мінным полі
Ступае маці...
«Сынку, болей
Не ўчуць мне стук твой у акно...»
Ступала маці ў круг смяротны —
Штурхаў у плечы аўтамат.
А следам слаўся
Чад смуродны,
А следам чуўся
Енк і гвалт!
Не страшна ўжо было памерці —
Агонь злізаў пакутны страх.
«Глядзіце, нелюдзі, паверце,
Што мін няма...
Няма тут...»
Г-гах!..
«Эх, Ксеня...

Лёс цябе, сястрычка,
Збярог нібыта ў ранак той.
Ды згасла ты,
Як тая знічка,—
Паганы тыф забраў з сабой.
Хто назаве пяшчотна братам?
Хто пазаве: «Сыночак... Сын...»?
Ні маці,
Ні сясцёр,
Ні таты,
Ні родных сцен
Бацькоўскай хаты,—
Адзін цяпер...
Адзін, адзін!..»
І раптам — стрэл!
Міхась падскочыў
Ад нечаканасці такой —
І успамін, як морак ночы,
Адразу знік.
Напэўна, бой?
Ажыў іх лагер,
Нібы вулей,—
За лесам дзесь чуваць пальба!
— Міхась, у штаб!
Ды толькі — куляй!
Трывога!
Ты не чуў хіба?
Ізноў фашысты падпіраюць,
Відаць, блакады не мінуць...
Зноў бор
Салдат сваіх збірае,
Трывожна сосны
Зноў гудуць.

12
«Котбус», умоўная назва карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх захопнікаў супраць партызанскіх брыгад «Дзядзькі Колі», «Жалязняк», імя Кірава, «Дубава», «Народныя мсціўцы», «Штурмавая», атрадаў «Смерць фашызму», «Бальшавік», «Гвардзеец», «За

Радзіму», імя Варашылава, імя Калініна і мірнага насельніцтва...
Разам з спецыяльнымі карнымі часцямі СС, жандармерыяй, ахоўнымі войскамі, паліцыяй у аперацыі прымалі ўдзел рэгулярныя войскі з танкамі, артылерыяй і авіяцыяй. Агульная колькасць карнікаў склала за 80 тысяч чалавек. Карнікі ў раёне Домжарыцкіх і Паліцкіх балот акружылі партызанскія брыгады «Жалязняк», «Дзядзькі Колі»,

*Беларуская Савецкая Энцыклапедыя*

Сонца
Дымам заслала.
Дзень,
Як вечар, панік...
Насядала навала,
Адбіваўся Палік.
Лезе ў сэрца трывога.
Гулка стукае кроў.
Трэск і пыл
Над дарогай —
Не злічыць чужакоў!
Кулямёты,
Як змеі,
З матацыклаў глядзяць.
Ды Міхась разумее:
Рана,
Рана страляць.
Гэта толькі разведка.
Бой?
Наперадзе бой!..
Тут бяссмертніка кветку
Раптам перад сабой
Ён убачыў,
І позірк
Супыніўся на міг,
І хлапчыне здалося —
Лёскат стрэлаў прыціх;
Не ў засадзе ляжыць ён
Тут,
Каля Слабады,

А хаваецца ў жыце,
А бяжыць у сады,
Заціскаючы ў жмені
Сіні пук васількоў,
І шчаслівая Ксеня,
На галоўцы з вянком,
Следам гоніцца,
Доўга
Даганяе яго.
«Сцеражыся — дзядоўнік!..»
— Па фашыстах — а-г-о-о-н-нь!..
Пахіліліся травы
На разбуджаны дол,
І вятрыска рухавы
Гэтым мігам наўкол
Рэха гулкага бою
Падхапіў і панёс
Па-над полем,
Над борам,
Над сцяною бяроз.
Грукат першай атакі
Адшугаў, адышоў.
Раптам што гэта —
Танкі?!
Немцы рушылі зноў.
«Сэрца, кінь калаціцца,
Страху, сэрца, не вер!»
Не,
Міхась не баіцца,
Хай паўзе гэты звер!
Не паможа вінтоўка —
Дзве гранаты з сабой.
Дзве гранаты —
І толькі...
А наперадзе — бой!
...Ноч далёка, далёка,
Разгараецца дзень.
Бой гарачы навокал,
Бой няроўны ідзе.
Што рабіць кулямётам
Супраць танкаў, гармат?

Лезе ўпарта пяхота —
Сілы ў ворага шмат!
Як даць карнікам рады —
Як спыніць іх,
Адбіць?..
І загад быў
атраду:
«Адысці!
Адступіць!..»
Кроў дарэмна пральецца
На траву,
На вясну.
«Тут заслон застанецца,
А астатнім —
За Цну!..»
Зноў пагорак мурожны
Выбух-смерч скалыхнуў.
— Гэта бой не апошні! —
Міша злосна шапнуў
І, сабраўшы гранаты,—
Іх трымаў наўзгатоў —
Камандзіра атрада
Адшукаў між байцоў.
— Мне дазвольце застацца
Прыкрываць адыход...
— Што ж, Усоскі, прызнацца,
Я не думаў...
Узвод
Без цябе ўжо сабраны,
У засадзе ляжыць...—
І дадаў нечакана: —
Жыць павінен ты, жыць!
Не магу я пакінуць
Тут, у пекле, цябе.
Табе нельга загінуць —
Род працягваць табе!
— Хоць адным я застаўся,
Ды я ўсё ж на вайне!
Я адпомсціць пакляўся —
Зразумейце мяне...
Мне ўжо хутка семнаццаць.

Ці ж раўня я малым?
Дык дазвольце застацца...
— Што ж, вяртайся жывым!

13

Мост праз Цну
Утрымаць быў загад
Не на дзень,
На гадзіну б, можа.
Адбіваўся заслон-атрад
І радзеў
Пад агнём варожым!
І вось немцы
На мосце ужо,
Ні ратунку ад куль,
Ні спагады.
Як бязлітасным вострым нажом,
Быў адрэзан заслон
Ад брыгады.
Блізка бераг —
Ці смерць, ці жыццё?
Ці ўратуюць іх золкія хвалі?
...Як уласнага сэрца біццё,
Чуў ён стогны —
Сябры паміралі.
Хвалі бераг лізалі,
Чарот
Гаманіў ля вады з асакою,
Шапацеў, як рассыпаны шрот,
Над ракою,
Над сінім спакоем.
Нетаропка Міхась адпаўзаў:
Ёсць патроны яшчэ —
Гэта ведаў.
Прыпыніўся, у бок чаратоў паказаў
— Ўсе плывіце,
Я потым, я следам!..
Не марудзьце —
Загінем усе!..—
І Міхась зноў прынік да прыцэла.
Стрэл за стрэлам,

А вораг паўзе
Больш нахабна,
Напорыста,
Смела.
Зразумелі, відаць,—
Не стрымаць,
Не спыніць іх
Вінтоўкай адною.
Рэхам стрэлы над плёсам грымяць —
Бой ідзе,
Не сціхае над Цною.
Адыходзіць Усоскаму час.
Ён яшчэ раз
Назад азірнуўся —
І знямеў,
Позірк быццам пагас,
Болем
Роспачны крык зварухнуўся:
— Што ж вы сталі, дзяўчаты?
Хутчэй
На той бераг плывіце,
Плыві-і-і-ц-е-е!
І Усоскі адчуў,
Як мацней
Стала сэрца ягонае біцца.
Палец быццам звяло,
Як прырос да курка.
«Хіба можна на здзек іх пакінуць?
Уратуй іх, рака,
Памажы ім, рака,
Пераплыць,
Уцалець,
Не загінуць!..
Я ж прыкрыю.
Пакуль ёсць патроны,
Мяне
У раку, у ваду
Немчура
Не спіхне!..»
Ён не ведаў часінаю той,
Што дзяўчаты не ўмелі плаваць,

Што апошні яго гэта бой,
Што загіне, загіне —
Са славай.
— Больш патронаў няма.
Не, не возьмеце так,
Не на тога натрапілі, гады! —
Сцяўшы зубы, прамовіў юнак
І з-за пояса вырваў гранаты:
— Гэта вам за бацькоў,
Гэта вам за сясцёр,
Гэта вам за іх кроў,
За іх слёзы!
Размахнуўся Міхась —
Грымнуў рэхам прастор,
Затрымцелі паніклыя лозы.
Ды гарачае штось
Левы бок апякло,
Пахіліла на дол сыраваты.
— Узяць жывым...— да хлапчыны дайшло.
— Не, не здамся!
З апошняй гранатай
Ён узняўся —
Крывава прасцяг памутнеў.
Ён да карнікаў рушыў наўпроста.
Толькі сэрца сцінаў
Боль і гнеў,
Толькі вочы іскрыліся помстай.
А фашысты ўсё бліжай...
Яны ўжо — кругом,
Вочы бліскаюць хіжасцю лютай!..
Грымнуў гром.
Прагрымеў гэты гром
Міхасю
Развітальным салютам...

* * *

«...Мішу Усоскага мы залічылі ў свой атрад. Завялі на яго дзённік...

...Даглядаем за помнікам-абеліскам юнаму герою ў Новым Сяле. На святы заносім туды вянкі і кветкі...»

*З пісьма піянераў Карсакавіцкай СШ*
*Барысаўскага раёна*

«...будзем старацца, каб гераічнае жыццё Мішы Усоскага стала для нас прыкладам...»

*З пісьма піянераў атрада імя Мішы Усоскага*
*Мсціжскай СШ Барысаўскага раёна*

«...у парку Герояў, які раскінуўся каля школы, ёсць дрэва памяці Мішы Усоскага».

*З пісьма вучняў Іканскай СШ Барысаўскага раёна*

Ён упаў.
Ды не мёртвым, не верце!
Ён жывы,
Ён загінуць не мог.
Ён з гранатай
Ішоў да бяссмерця —
І ў апошнім баі
Перамог!
І калі ў дні суровай блакады
Паліку вораг горла сціскаў,
Крочыў смела
Ва ўдарных атрадах
І Міхась —
Як герой Паліка.
Гэта бачылі сосны з бярозкамі,
Бачыў гэта
Вячысты бор —
Аддзяленне імя Усоскага
Той гарачы працягвала бой!
А Міхась хоць упаў —
Не загінуў.
Хіба гінуць героі калі?!
Ён застаўся навечна
З Айчынай,
Ён з жывымі
Ідзе па зямлі.
Бачыць гэтае сонца
Над нівамі,
Чуе ў небе

Званкі жаўрукоў.
Бачыць гэтыя
Вочы шчаслівыя
Піянераў —
Сваіх дружбакоў.
Чуе песні,
Як росы, празрыстыя —
Песні іх непаўторнай пары.
Бачыць раніцы іх —
Залацістыя
Ад сцягоў,
Ад кастроў,
Ад зары.
Бачыць зорак
Вясновыя высевы
Над сабой,
Над лясной цішынёй,
Над Бярозай,
Над Цной,
Над Барысавам,
Над Масквой,
Над Радзімай усёй.
Ён ідзе —
Шлях ад сэрца да сэрца.
Звонкі, юны,
Праз далеч гадоў
Між сяброў на атрадных паверках
Рапартуе:
— Заўсёды гатоў!
І дубок пад праменнямі мая —
Яго вёснаў і славы працяг —
Што ні год,
То вышэй узнімае,
Сваю крону ўзнімае,
Як сцяг!

**З М Е С Т**



**Чарняўскі М.**

Навечна з сонцам: Дакум. паэмы: Для сярэд. шк. узросту/Маст. П. М. Драчоў. Мн.: Юнацтва.— 1986.— 95 с.: іл.

Антон Губараў, Міхась Усоскі, Марат Казлоў... Гэтыя імёны ўвекавечаны ў назвах вуліц, караблёў, піянерскіх дружын і атрадаў.
У дакументальных паэмах, якія складаюць зборнік, аўтар расказвае пра подзвіг кожнага з гэтых юных герояў, пра тое, як змагаліся яны з ворагам і ў жорсткай барацьбе аддалі жыццё за Радзіму.